ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXV, № 216 New York, April — Красавік 1975 Vol. XXV, № 216

## ВАСІЛЬ БЫКАЎ

### НА УСЕСАЮЗНЫМ ПІСЬМЕНЬНІЦКІМ ФОРУМЕ

Ад 27 лютага да 3 сакавіка сёлета праходзіла ў Менску Ўсесаюзная нарада пісьменьнікаў і крытыкаў на тэму „Няўміручы подзьвіг народу ў Вялікай Айчыннай вайне і савецкая літаратура", скліканая з нагоды сёлетніх 30-х угодкаў перамогі ў мінулай вайне. На нарадзе выступалі з дакладамі першы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі Пётр Машэраў і кіраўнік катэдры тэорыі літаратуры Акадэміі грамадзкіх навукаў пры ЦК КПСС прафэсар Л. Якіменка. Абодвы дакладчыкі — людзі высокага партыйнага профілю разглядалі мастацкую літаратуру пра вайну з чыста партыйных пазыцыяў ды давалі ідэйна-палітычныя ўстаноўкі ў дырэктыўным парадку, якой на думку партыі, павінна быць літаратура ня толькі пра вайну, а й наагул уся шматнацыянальная савецкая літаратура.

Ідэйна-палітычны тон нарадзе надаў у сваім выступленьні Пётр Машэраў. Фактычна не сказаў ён нічога новага, а толькі паўтарыў усё тое, у чым зьвінавачваў ён у сваіх леташніх прамовах беларускую літаратуру й мастацтва ды якія даваў ёй дырэктывы. Усё гэта цяпер першы сакратар ЦК КПБ абагульніў на ўсю шматнацыянальную савецкую літаратуру. Пад адрысам ня толькі беларускіх пісьменьнікаў, але й пісьменьнікаў усіх іншых савецкіх літаратураў Машэраў з вышыні свайго партыйнага становішча казаў на нарадзе:

**„Але адзінае, супраць чаго мы пярэчылі і будзем пярэчыць з усёй страснасьцю і няпрымірымасьцю,— супраць спроб даць скажоны малюнак таго, што было няхай нават у самыя складаныя і горкія пэрыяды ваеннага ліхалецьця. Мы супраць любых тэндэнцый дэгераізацыі, напрыклад, у абмалёўцы 1941 году, пачатковага этапу вайны, супраць спэкулятыўных разважаньняў аб неапраўдана вялікіх ахвярах, фатальных пралікаў і д. т. п."**

Асудзіўшы гэную дэгераізацыю ў літаратурных творах пра вайну, як зьяву антыпартыйную, Машэраў ад імя партыі паставіў пісьменьнікам наступную дырэктыву:

**„Рэвалюцыйная рамантыка, эмацыянальна - прыўзьнятае ўспрыняцьце і адлюстраваньне рэчаіснасьці, пафас яе пераўтварэньня ня толькі правамерныя, але і неабходныя . . . Бязьмежная мужнасьць савецкіх людзей, усёадольваючы гераізм, патрыятычнае самаахвяраваньне, уменьне перамагаць у неймаверна цяжкіх умовах — гэта той маральны капітал, зь якога дзеці, унукі і праўнукі нашы будуць чэрпаць духоўную сілу, зьвяраць па шкале чалавечых каштоўнасьцяў ваеннага часу сваю маральную чысьціню і духоўную высакароднасьць".**

Апрача дакладчыкаў, на нарадзе выступіла з прамовамі 37-ёх ейных удзельнікаў розных нацыянальнасьцяў. Сярод іх асноўны тон надавалі дыскусіі, калі гэтак яе можна назваць ,расейскія пісьменьнікі, якіх з усяе колькасьці гэных 37-ёх прамоўцаў чуць не палавіну складалі расейскія пісьменьнікі — аж 16 прамоўцаў. Наступнымі паводля колькасьці прамоўцаў былі беларускія пісьменьнікі: Пімен Панчанка, Іван Навуменка, Васіль Быкаў, Нічыпар Пашкевіч і Максім Танк. Значны ўдзел беларускіх пісьменьнікаў у дыскусіі можна вытлумачыць тым, што нарада адбывалася на Беларусі ды што з усіх савецкіх рэспублікаў Беларусь пацярпела ад вайны найбольш, а ў сувязі з гэтым ваенная й партызанская тэма якраз у беларускай літаратуры разгорнутая найшырэй і найглыбей. Далей у дыскусіі выступілі два казахскія пісьменьнікі й па адным усяго прадстаўніку ад некаторых іншых нерасейскіх літаратураў. Характэрна, што ад некаторых нерасейскіх літаратураў ня выступаў ніхто.

Агульны ідэйна-палітычны тон, нададзены нарадзе партыйнымі дакладчыкамі, прагучэў бадайшто ўва ўсіх выступленьнях у дыскусіі. Адным адзіным прамоўцам, што меў мужнасьць адхіліцца ад афіцыйнае схэмы й тону нарады й выказаць свой апрычоны пагляд, прынцыпова адрозны ад усяе нарады, быў наш **Васіль Быкаў.**

Як ведама, ува ўсіх сваіх ваенных аповесьцях патрабаванай партыяй гераізацыі й рамантызацыі савецкіх дасягненьняў у вайне супрацьстаўляе Васіль Быкаў жахлівы рэалізм і трагізм вайны, нявымоўнае народнае пакутніцтва, спрычыненыя ня толькі няўмольнымі аб'ектыўнымі законамі вайны, але й савецкім антылюдзкім спосабам вядзеньня вайны. Уважаючы, што лепшыя творы пра вайну маглі быць створаныя пісьменьнікамі, якія, як і сам Васіль Быкаў, мелі багатае собскае ваеннае дазнаньне, набытае ў крыві й пакутах на фроньце, Васіль Быкаў у сваёй прамове на нарадзе казаў:

**„Менавіта наяўнасьць гэтага вопыту, максымальна магчымая мера праўды і сталі вызначальнай рысай таленавітасьці новых твораў аб Вялікай Айчыннай вайне. І мы цяпер з упэўненасьцю можам сказаць, што многае з прозы і паэзіі тых вогненых гадоў вытрымала праверку часам і дастойна ўпрыгожвае нашу ваенную літаратуру . . . Упяршыню ў літаратуры аб вайне загучэлі разам зь іншымі і вельмі драматычныя ноты, выяўлялася сапраўдная каштоўнасьць чалавечага жыцьця і ўся паўната пакут, якія выпалі на долю народу. Аказалася, што творы пра вайну могуць мець і трагічную разьвязку і што побач з мужнасьцю і самаадданасьцю на фроньце бываюць шкурніцтва, кар'ерызм і нават здрадніцтва".**

Падагульняючы ўсё сказанае ім пра літаратурныя творы пра вайну, Васіль Быкаў зрабіў гэткую важную выснову:

**„Чатыры гады вялізарных намаганьняў народу стварылі духоўны канцэнтрат вечнай каштоўнасьці . . . у якім знайшло сваё найбольш поўнае ўвасабленьне ня толькі наша мінулае, але і ў пэўным сэньсе наша будучае. Ня пераступаючы праўды гісторыі і духу таго грознага часу, лепшыя нашы мастакі працягваюць настойліва распрацоўваць гэты залатаносны пласт нашай гісторыі, адкрываючы на канкрэтным, сацыяльным і нацыянальным матарыяле, усё новыя грані гэтай вялікай тэмы".**

Усё тое, што сказаў Васіль Быкаў пра літаратуру аб вайне, з поўным правам можна ўважаць за аўтахарактарыстыку ягонай собскай творчасьці. Ён гаварыў з тых самых ідэйных пазыцыяў, што заняў у сваіх ваенных і партызанскіх аповесьцях, перш-наперш і галоўна ў гэткіх аповесьцях, як „Мёртвым не баліць", „Праклятая вышыня" й „Круглянскі мост", якія ня гэтак даўно былі войстра асуджаныя і тагачасным сакратаром ЦК КПБ Станіславам Пілатовічам, і маскоўскай „Правдай", і партыйнай і вайсковай крытыкай у Маскве й Менску, а якія, будучы надрукаванымі адно ў беларускіх часапісах ды ў маскоўскім часапісе „Новый Мир", не ўдастоіліся кніжных выданьняў і навет ня ўлучаныя ў ягоныя „Выбраныя творы ў двух тамох", што выйшлі летась.

І ў дакладзе Л. Якіменкі, і ў выступленьнях прамоўцаў, Васілю Быкаву было прысьвечана на нарадзе ня менш увагі, чымся агульна вызнанаму найвышэйшаму аўтарытэту ў галіне ваеннае тэматыкі расейскаму пісьменьніку Канстынтыну Сіманаву. Ведамы расейскі пісьменьнік Анатоль Сафронаў у сваёй прамове казаў: **„Зь вялікім задавальненьнем прачытаў я „Абэлік" і „Воўчую зграю" Васіля Быкава. Гэта зьдзіўляючыя па ёмістасьці пачуцьцяў, па канцэнтрацыі падзей і па выяўленьню характараў герояў творы".** Асабліва характэрна, што дакладчык Л. Якіменка і ўдзельнікі дыскусіі, зь вялікім захапленьнем і высокім прызнаньнем часта зварачаючыся да творчасьці Васіля Быкава, ніводным словам не згадалі пра тыя нясумяшчальныя з афіцыйнай партыйнай лініяй зьявы ў ягонай творчасьці, за якія быў ён войстра зьвінавачваны партыяй ды партыйнай і вайсковай крытыкай. Больш таго! Дакладчык Л. Якіменка, каб падцягнуць усё-ж творчасьць Васіля Быкава пад партыйную лінію, часта браў жаданае за запраўднае. Прыкладам, у паводзінах партызана Сотнікава ў ваднайменнай аповесьці Васіля Быкава „Сотнікаў" Л. Якіменка з асаблівым націскам падчыркнуў бездакорнае семленьне й высокі гуманізм камуністага. Тымчасам беларуская савецкая крытыка апошніх гадоў ацаніла Сотнікава, як бяздушнага сталінскага дагматыка, што ўспрыймае падзеі зь ведамай зададзенасьцяй і мерае жыцьцё ня крытэрыямі сумленьня й гуманізму, а тыповымі закасьцянелымі формамі. Навет першы сакратар ЦК КПБ П. Машэраў у сваім дакладзе паклікаўся на Васіля Быкава ў пазытыўным сэньсе.

Усесаюзная нарада пісьменьнікаў і крытыкаў прынесла Васілю Быкаву поўную й, трэба спадзявацца, канчатковую перамогу ў бескампрамісовай абароне ягоных ідэйных пазыцыяў, занятых у ягоных ваенных аповесьцях. З другога боку, сваім мужным выступленьнем на нарадзе Васіль Быкаў абараніў і высока падняў гонар і годнасьць беларускае літаратуры.

**Дзівасіл**

## ДНІ БЕЛАРУСАВЕДНЫХ СТУДЫЯЎ У АТАВЕ

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Канадзе ў супрацоўніцтве із Славянскім Аддзелам Атаўскага ўнівэрсытэту ладзіць у Атаве 25, 26 і 27 красавіка сёлета Дні Беларусаведных Студыяў. Тэма студыяў — „Прысутнасьць Беларусі на Паўночнаамэрыканскім кантынэньце".

**У праграме:** 1. Вечар паэзіі Натальлі Арсеньневае з асабістым удзелам паэткі ў пятніцу 25 красавіка а гадзіне 7-ай вечара ў Proffessors' Lounge, Colonel By Building, 77 King Edward.

2. Даклады дасьледнікаў і навукоўцаў у сыботу 26 красавіка ад гадзіны 9-ай раніцы да 5-ай папаўдні і ў нядзелю 27 красавіка ад гадзіны 10-ай раніцы да 1-ай папаўдні ў Morisset Hall, 65 Hastey.

3. Супольная вячэра ў сыботу 26 красавіка а 7-ай гадзіне вечара ў University Center, 85 Hastey.

У днёх ад 20 да 27 красавіка адбудзецца ў Main Lounge, University Center, 85 Hastey, выстаўка беларускага народнага мастацтва, арганізаваная з дапамогаю Канадыйскага Нацыянальнага Музэю Чалавека (National Museum of Man, National Museums of Canada).

Запрашаем беларускае грамадзтва прыняць удзел у гэтай культурнай маніфэстацыі. Дзеля дакладнейшых інфармацыяў, а таксама замаўленьня пакояў у гатэлі, просім званіць пасьля 6-ай гадзіны ўвечары на наступныя нумары: (613) 820-3303 або (613) 389-5061.

**Управа**
**Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канадзе**

## МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ У КАНГРЭСЕ ЗША

**Напрыканцы сакавіка — пачатку красавіка сёлета Беларусы ў Вольным Сьвеце ўрачыста адзначылі 57-я ўгодкі ад абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі векапомным Актам 25 сакавіка 1918 году.**

**У дзень угодкаў 25 сакавіка 1975 году Пратаярэй БАПЦ а. Васіль Кендыш прачытаў у Палаце Рэпрэзэнтантаў Кангрэсу ЗША адмысловую малітву за Беларускі й Амэрыканскі народы. Беспасярэдня пасьля малітвы два кангрэсмэны ад штату Нью Ёрк Даст. Марыё Б'яджы й Даст. Фрэдэрык Рычманд выступілі ў Палаце Рэпрэзэнтантаў з прамовамі на тэму 25 Сакавіка. Пасьля гэтага Пратаярэй а. В. Кендыш разам з прысутнай зь ім беларускай дэлегацыяй у складзе сп-ні Веры Бартуль, сп-чны Яраславы Тумаш і старшыні Галоўнай Управы БАЗА д-ра Р. Гарошкі злажылі афіцыйную візыту Сьпікеру Палаты Рэпрэзэнтантаў Даст. Карлу Альбэрту.**

**Справаздачы з угодкавых урачыстасьцяў будуць зьмешчаныя ў травенскім № 217 „Беларуса".**

## ПАДРУЧНІК




Сярод тысячаў выданьняў, што прыбываюць штадня ў Ньюёркаўскую Публічную Бібліятэку, дзе я працую, трапіла мне нарэшце ў рукі кніга, якая не магла ня выклікаць палітычных і філязофскіх разважаньняў і пачуцьця гонару. Кніга гэтая—Fundamental Byelorussian, by V. Pashkievich. Гэта першае ў сваім родзе дасягненьне беларускае замежнае пэдагогікі й беларускага школьніцтва: падручнік беларускае мовы ў небеларускай мове, у мове, якою карыстаюцца сотні міліёнаў людзей на сьвеце — ангельскай. Вітаючы выхад гэтае кнігі, я ня маю на мэце даваць крытычны агляд яе — рабіць агляд зьместу, графічнага афармленьня, ілюстрацыяў, памылак аўтара й карэктара — гэта зробіцца пры іншай нагодзе. На падручнік гэты хочацца перш-наперш зірнуць, як на дасягненьне беларускае культуры, як на вынік вялізарнага высілку й ахвярнасьці тых, дзякуючы каму ён зьявіўся, як на помнік дзейнасьці беларускае эміграцыі.

Падручнік гэты — вяха ў беларускай культуры, бо гэткага тыпу кнігі ў нас яшчэ ня было. Ня відаць яе тымчасам і ў БССР.

Падручнік гэты — новае дасягненьне беларускае пэдагогікі, бо яно дае магчымасьць наўчаць дзяцей беларускага паходжаньня з ангельскай мовай, як іхнай роднай мовай.

Падручнік гэты —адно першая частка двутомавае працы „асноваў беларускае мовы для англамоўнага студэнта й вучня".

Падручнік гэты — сьветчаньне існаваньня й працяг існаваньня беларускіх школак у ЗША і Канадзе, у якіх сотням дзяцей працаю ахвярных настаўнікаў былі замацаваныя асновы беларускае вуснае мовы й пакладзеныя пачаткі мовы пісьмовае.

Падручнік гэты — (выдадзены пры грашовай дапамозе канадзкага ўраду, беларускага грамадзтва й Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва) — паказьнік эфэктыўнага супрацоўніцтва й высокага ўзроўню зацікаўленасьці справаю ўзгадаваньня моладзі.

Думаецца мне, што не павінна быць аніводнае беларускае сям'і, у якой ня было-б гэтае кнігі — і сабе для ўжытку і іншым на паказ ды захвочаньне.

Падзяка й пашана належыцца сп-ні Валентыне Пашкевіч за ейную кнігу — „Асновы Беларускае Мовы". **Вітаўт Кіпель**

### ПРЫНЯЦЬЦЕ Ў БЕЛЫМ ДОМЕ

6-га сакавіка ў Вашынгтоне адбылася канфэрэнцыя кіраўнічага актыву палітычных і нацыянальных маладзежных і студэнцкіх арганізацыяў. Спансэраваў канфэрэнцыю Цэнтральны Камітэт Рэспубліканскае Партыі. Удзел у канфэрэнцыі бралі прадстаўнікі 13-х нацыянальных групаў і некалькі дзесяткаў арганізацыяў.

Як прадстаўнічка маладога пакаленьня Амэрыканцаў-Беларусаў, у канфэрэнцыі ўзяла ўдзел спадарычня Алеся Кіпель, актыўная ў маладзежным рэспубліканскім руху штату Нью Джэрзі, кіраўнічка дзявочага скаўтынгу і дзейная сяброўка Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў галоўнай кватэры і ў аддзеле Нью Ёрк.

Кульмінацыйным пунктам канфэрэнцыі было прыняцьцё, абед і нарада ў Белым Доме.

## ДРУГАЯ ШТОГАДОВАЯ МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

**БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ НА ЭМІГРАЦЫІ**
**ад 6 й да 27 красавіка сёлета**
**ў БЕЛАРУСКІМ ЦЭНТРЫ ў САЎТ РЫВЭРЫ (Вайтгэд авэню).**
**Урачыстае адчыненьне Выстаўкі ў нядзелю 6 красавіка а 3-яй гадзіне папаўдні.**
**Выстаўка адчыненая ад панядзелку да сыботы ад 7-ай да 10-ай гадзіны ўвечары, у нядзелі — ад 3-й да 11-ай гадзіны ўвечары.**
**Усіх ветліва запрашаем наведаць Выстаўку.**

**Беларускае Культурна-Мастацкае і Навуковае Таварыства ў Саўт Рывэры**

**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.
Subscription $10.00 yearly.

„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## 13-АЙ СЭСІІ РАДЫ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ НА ЧУЖЫНЕ 30 ЛІСТАПАДА 1974 Г. У НЬЮ ЁРКУ, ЗША

**На 13-й Сэсіі Рады БНР у Нью Ёрку 30 лістапада летась была прынятая Рэзалюцыя, якую друкуем ніжэй толькі ў гэтым нумары „Беларуса" з тае прычыны, што мы атрымалі яе напрыканцы сакавіка сёлета — Рэд.**

Савецкі Саюз — расейская каляніяльная імпэрыя — ужо 56 год зьдзекуецца над Беларускім дваццацімілённым Народам.

Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаная незалежнай і сувэрэннай дзяржавай 25 сакавіка 1918 году з волі 1800 дэлегатаў 1-га Усебеларускага Кангрэсу — была зьнішчана брутальнай вайсковай сілай Савецкай Расеі 56 год таму назад і дагэтуль знаходзіцца пад яе акупацыяй.

Праз гэты час маскоўскі акупант зьнішчыў у сваіх вастрогах і канцэнтрацыйных лягерах больш за **сем мілёнаў** беларускага насельніцтва й неаблічаную колькасьць вартасьцяў беларускай культуры.

Больш траціны Беларусі бальшавіцкая Масква далучыла да Расеі, з рэшты-ж яна, меншымі часткамі беларускай тэрыторыі, надзяліла суседзяў Беларусі ў сувязі із сваімі палітычнымі махінацыямі, ды з астанкоў — каля палавіны Беларусі — стварыла фікцыйную беларускую дзяржаву — БССР.

Праз 56 год у БССР дзяржаўная ўлада ўстанаўляецца фікцыйнымі выбарамі кандыдатаў вызначаных Масквой і стала знаходзіцца пад яе вылучнай кантроляй.

Пад прэтэкстам шырака прапагаванай „дружбы народаў" і злучэньня ўсіх народаў Савецкага Саюзу ў адну гэтак званую **„савецкую нацыю"**, маскоўскі таталітарны рэжым праводзіць русыфікацыю Беларусі. Беларуская мова выцясьняецца з публічнага ўжытку й школьніцтва ды замяняецца расейскай, памяншаецца беларускі друк прэсы й кніжак ды замяняецца расейскім, а беларуская літаратура й мастацтва пазбаўляюцца свайго нацыянальнага зьместу й характару.

Савецкі рэжым праводзіць у Беларусі жорсткі ўціск і дыскрымінацыю беларускага рэлігійнага жыцьця: зачыняе сьвятыні, перасьледуе беларускіх сьвятароў і вернікаў. З тых-жа праваслаўных цэркваў, якія ўтрымаліся — маскоўскія заправілы стварылі яшчэ прыладу русыфікацыі: гэтым цэрквам не дазволена свая, беларуская праваслаўная юрысдыкцыя зь беларускім япіскапатам, хоць Беларусь і называецца незалежнай і сувэрэннай рэспублікай. Яны падданы пад юрысдыкцыю расейскай праваслаўнай царквы ў Маскве й зроблены асяродкамі русыфікацыі вернікаў.

Ня лепшая доля й уцалеўшых беларускіх каталіцкіх парахвіяў, у якіх праводзіцца палянізацыя. Ім не дазволена мець сваіх беларускіх япіскапаў, як маюць сваіх нацыянальных япіскапаў суседнія рэспублікі. Замест гэтага для Беларусаў каталікоў у Беларусі Масква знайшла юрысдыкцыю заграніцай — польскую каталіцкую юрысдыкцыю кардынала Вышынскага — ведамага палянізатара Беларусаў каталікоў у Польшчы ў Беласточчыне, які ахвотна бярэцца за новы матар'ял да палянізацыі — у Беларусі.

Маскоўскія заправілы стала гвалцяць у Беларусі Хартыю Вольнасьцяў Задзіночаных Нацыяў і Унівэрсальную Дэклярацыю Людзкіх Правоў. Яны трымаюць у поўнай ізаляцыі ад рэшты сьвету насельніцтва БССР, забараняюць эміграцыю ў Амэрыку й іншыя заходнія дзяржавы і толькі ў рэдкіх выпадках пазваляюць некаторым асобам на часовы выезд заграніцу. Нават ліставаньне й культурная сувязь з вольным сьветам перасьледуецца.

Эксплёатацыя Масквой беларускіх натуральных багацьцяў робіцца не на карысьць беларускага народу, а на ўзмацненьне расейскага імпэрыялістычнага патэнцыялу, чым павялічваецца небясьпека для ўсяго вольнага сьвету.

Дзеля ўсяго вышэй сказанага — мы, 13-я Сэсія Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на чужыне — пастанавілі:

Асудзіць расейскі імпэрыялізм Савецкага Саюзу за паняволеньне свабодалюбнага Беларускага Народу, за нялюдзкія зьдзекі савецкай улады над Беларусамі й іншымі паняволенымі народамі;

асудзіць жорсткую савецкую эканамічную эксплёатацыю й русыфікацыю Беларусі, якія праводзяцца пад клічам „дружбы народаў" і ўтварэньня гэтак званай **„аб'яднанай савецкай нацыі"**, а фактычна **„адзінай расейскай нацыі"**;

**прадаўжаць далейшую барацьбу за вызваленьне Беларусі спад маскоўскага ярма;**

заклікаць урад Задзіночаных Штатаў Амэрыкі й урады ўсіх дзяржаваў вольнага сьвету, каб асудзілі ўрад Савецкага Саюзу за пагвалчаньне людзкіх правоў у Беларусі й за палітычны, рэлігійны, культурны й эканамічны ўціск яе насельніцтва ды каб гэтыя дзяржавы ўзалежнілі адпружаньне ў адносінах з Савецкім Саюзам і эканамічнае супрацоўніцтва зь ім ад прызнаньня Савецкім Саюзам права на свабодныя зносіны з вольным сьветам і на эміграцыю ў Амэрыку й наагул у вольны сьвет — Беларусам і іншым падсавецкім народам;

дамагацца ў Генэральнага Сакратара Задзіночаных Нацыяў, каб стварыў адмысловую камісію Задзіночаных Нацыяў, якая-б занялася дасьледваньнем каляніяльнай палітыкі Савецкага Саюзу ў Беларусі, а менавіта; гэнэсыдам Беларускага Народу й перасьледваньнем беларускае мовы й культуры; жорсткім рэлігійным уціскам з забаронай утварэньня беларускай праваслаўнай юрысдыкцыі ў Беларусі ды недапушчаньнем беларускага каталіцкага япіскапату для Беларусаў; фальшывай рэпрэзэнтацыяй Беларусі ў Задзіночаных Нацыях — аднаго зь сяброў закладчыкаў гэтай арганізацыі — дэлегацыяй гэтак званай БССР, якая рэпрэзэнтуе інтарэсы Масквы, а не Беларусі;

дамагацца дапушчэньня ў Задзіночаныя Нацыі дэлегацыі Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, як абсэрватара.

**Прэзыдыюм 13-ай Сэсіі**
**Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на чужыне**

## БЕЛАРУСАВЕДА НА ГАРАДЗКІМ КАЛЕДЖЫ НЬЮ ЁРКУ

У сярэдзіне красавіка сёлета канчаецца чародны шосты сымэстар унівэрсытэцкага курсу „Славянская спадчына Амэрыкі". Гэты курс улучае ў сабе таксама беларусаведныя выклады: гісторыя Беларусі, гісторыя беларускае іміграцыі ў ЗША, сучасная Беларусь. Беларускія лектары курсу: др. Вітаўт Кіпель і др. Янка Запруднік.

За мінулыя два сымэстры студэнтамі курсу былі напісаныя працы пра геаграфію расьсяленьня Беларусаў у Нью Ёрку ў пэрыядзе 1880-1960 гадоў; а таксама пра пачаткі й прычыны беларускае іміграцыі ды беларускія асяродкі Амэрыкі.

Да беларусаведных выкладаў, у дапамогу студэнтам, падрыхтаваны адмысловы канспэкт, які можна дастаць ад беларускіх выкладчыкаў беспасрэдня або праз газэту „Беларус".

*БЕЛАРУСКАЯ СПАДЧЫНА Ў АМЭРЫЦЫ*

# АЙЦЕЦ ФРАНЬЦІШАК ДЗЕРАЖЫНСКІ

Мой папярэдні артыкул аб беларускай спадчыне ў штаце Мэрылэнд канчаўся цьверджаньнем, што ў гісторыі каталіцкае асьветы Задзіночаных Штатаў Амэрыкі Беларусы адыгралі важную ролю. Роля гэная належала ксяндзом-Беларусам, якія здабылі сваю асьвету на Беларусі ў Полацкай Езуіцкай Акадэміі, ды ў першую чвэрць 19-га стагодзьдзя выехалі зь Беларусі ў Амэрыку.

Выдатнейшая постаць у гэтай дзялянцы, асоба, якую ціраз звалі ў друку „патрыярхам амэрыканскіх езуітаў" — гэта ксёндз-Беларус айцец Франьцішак Дзеражынскі.

Наколькі памяць, у нашым беларускім друку імя ягонае яшчэ не згадвалася. Аднак у будучай гісторыі культуры Беларусі, у спэцыяльным разьдзеле, прысьвечаным удзелу Беларусаў у разьвіцьці культураў іншых краінаў, імя Ф. Дзеражынскага зойме — мусіць заняць! — выдатнае месца. Тутака-ж толькі ў памерах газэтнага артыкулу я хачу пазнаёміць чытача з асобай і дзейнасьцяй а. Франьцішка Дзеражынскага.

### Раньнія гады

Нарадзіўся Франьцішак Дзеражынскі ў Воршы 3-га студзеня 1779 году. Там-жа ў Воршы ён атрымаў пачаткавую й сярэднюю асьвету. Зь сябрамі дзяцінства трымаў сталую перапіску, навет будучы пазьней у Амэрыцы. Праўдападобна, што Франьцішак Дзеражынскі вучыўся ў Воршы ў езуіцкай школе, бо будучы добра падрыхтаваным, ужо пятнаццацігадовым юнаком, уступае ў езуіцкі ордэн у Полацку. Там-жа ў Полацку зрабіў навіцыят і скончыў тэалёгію.

У сьвятарскі сан быў рукапалажаны біскупам Кіпрыянам Адынцом у 1806 годзе ў Полацку. Перад прыняцьцем сьвятарства а. Дзеражынскі нейкі час студыяваў і выкладаў у „Колегіюм Нобіліюм" у Пецярбургу, дзе выкладаў францускую мову, фізыку й музыку. Ад 1806 да 1809 году быў выкладчыкам расейскае мовы й музыкі ў Полацкай Акадэміі. Пазьней у гадох 1810-11 Дзеражынскі знаходзіцца ў Магілеве, дзе выкладае філязофію й матэматыку для езуітаў, а таксама мае некаторыя адміністрацыйныя дачыненьні зь іншымі ордэнамі. Год ці два выкладаў таксама ў Мсьціславе.

У часе вайны 1812 году а. Франьцішак, як ён зазначае ў сваім дзёньніку (дарэчы, бальшыня ягоных біяграфічных дадзеных узятая зь дзёньніка й ягоных лістоў, што знаходзяцца ў колькіх архівах у Амэрыцы), купіўшы 12 коняў і тры вазы, выехаў у бежанства за Вялікія Лукі. Па звароце ў Полацак а. Дзеражынскі выкладае ў Полацкай Акадэміі дагматычную тэалёгію й апалягэтыку ды выконваў розныя адміністратарскія функцыі. Затрымоўваецца ён у Полацку аж да 1820 году.

### Выезд зь Беларусі

У сакавіку 1920 году быў выдадзены ўказ аб забароне дзейнасьці езуіцкага ордэну на тэрыторыі Расейскае Імпэрыі. Пачаўся масавы выезд езуітаў за межы Расеі: пераважна ў Заходнюю Эўропу ды часткава ў Задзіночаныя Штаты Амэрыкі.

Айцец Дзеражынскі накіраваўся праз Львоў у Італію, дзе спачатку затрымаўся ў Балёніі, потым — на востраве Эльбе, потым у Порто-Фэрарыё, і нарэшце — у Рыме. У Рыме кіраўніцтва езуіцкага ордэну пасьля даўгіх аналізаў і меркаваньняў, пастанавіла накіраваць а. Франьцішка Дзеражынскага ў Задзіночаныя Штаты Амэрыкі.

Як я пісаў у папярэднім артыкуле, пасьля забароны езуіцкага ордэну Папам у 1773 г. амэрыканскія езуіты Мэрылэнду ў 1805 далучыліся адміністрацыйна да Беларусі і зваліся Беларуская Правінцыя Мэрылэнду. Гэтак езуіты Мэрылэнду пражылі аж да 1814 году, калі езуіцкі ордэн быў зноў аднаўлены. Аднак-жа езуітам Амэрыкі прыходзілася ня лёгка: адчувалася нястача кадраў, вяліся інтрыгі збоку каталіцкага духавенства, якое езуітаў ня любіла, ды шмат якія адміністрацыйныя перашкоды стварaлі вельмі цяжкія ўмовы да працы.

Накіраваньне а. Франьцішка Дзеражынскага ў Амэрыку было прадуманай, узважанай і вельмі адказнай пастановай у Рыме. Кіраўніцтва езуіцкага ордэну ўскладала на а. Дзеражынськага вялікія надзеі як на здольнага адміністратара, навукоўца, пэдагога й чалавека аддананага справе. Генэрал езуітаў Алёіз Фартыс, накіроўваючы а. Дзеражынскага ў Амэрыку — як выглядае і зь ягоных інструкцыяў і зь ягоных лістоў — ускладаў на а. Дзеражынскага надзею, што ён ня толькі паставіць езуіцкі ордэн на ногі, але й разгорне каталіцкае місіянерства, асьвету ды спрычыніцца да ўзмацненьня каталіцтва ў Амэрыцы.

### У Амэрыцы

На пачатку 1821 году а. Франьцішак Дзеражынскі, разам з колькімі іншымі ксяндзамі з Полацку, прыехаў у Філядэльфію, а праз пяць дзён, 12 лістапада, ён дабраўся да месца свайго прызначэньня — Джорджтаўнскі Каледж у горадзе Вашынгтоне.

Адразу-ж а. Дзеражынскі назначаецца ў гэтым каледжы (крыху пазьней пераназваным у Джорджтаўнскі Ўнівэрсытэт, які, дарэчы, існуе й да сяньня) на выкладчыка маралі тэалёгіі, ды прызначаецца за дарадніка галавы ордэну езуітаў Чарльза Ніле, тады ўжо старога й хворага чалавека. Прызначэньне за дарадніка было часовым і прадыктаваным тактычнымі меркаваньнямі, бо ўжо праз два гады, у жніўні 1823 году, а. Франьцішак Дзеражынскі становіцца галавой ордэну езуітаў Задзіночаных Штатаў Амэрыкі.

Былі гэта цяжкія для езуітаў Амэрыкі часы. Неставала людзей, ордэн быў у вельмі цяжкім фінансавым стане. Перад ордэнам стаялі шмат якія адміністрацыйныя праблемы. Патрэбнае было плянаваньне, абдуманасьць, напружанасьць і глыбокая вера ў свае дзеяньні. Гэтыя якасьці былі ўласьцівыя а. Дзеражынскаму.

Першым важнейшым крокам для будучыні езуітаў Амэрыкі было арганізаваньне навіцыяту езуітаў у штаце Місуры, куды а. Дзеражынскі перанёс гібелы навіцыят з Уайт-Маршу ў штаце Мэрылэнд. Навіцыят у Місуры адразу стаў на цьвярдую эканамічную базу, ня меў адміністрацыйных праблемаў і стварыў моцную навукова-акадэмічную адзінку. Гэта азначала магчымы хуткі прыплыў новых сілаў. У гэтым-жа часе а. Дзеражынскі арганізаваў Каледж Сьвятога Яна ў горадзе Фрэдрыку ў штаце Мэрылэнд і даў штуршок разьвіцьцю школьнае сеткі ў гэтым горадзе.

У сэрыі дэбатаў з каталіцкімі біскупамі а. Дзеражынскі абараніў правы езуітаў, якімі гэтыя правы былі да забароны ордэну. Довады а. Дзеражынскага былі прызнаныя правільнымі. Вышэйшых-жа каталіцкіх герархаў асабліва ўразіла акадэмічнасьць, веды й адданасьць царкве а. Дзеражынскага. Дэбаты палепшылі дачыненьні, уладзілі некаторыя адміністрацыйныя непаладкі, а галоўнае ўстанавілі нармальныя дачыненьні паміж езуітамі й мясцовымі каталіцкімі коламі.

Далейшая дзейнасьць а. Дзеражынскага ізноў праходзіла ў штаце Місуры. Сьледам за навіцыятам, а. Дзеражынскі арганізаваў там шэраг школаў для місіянераў, якія разгарнулі місіянерскую працу сярод Індыйцаў штату. Гэтыя школы мелі значны ўплыў на арганізаваньне школьнае сеткі штату, а крыху пазьней, у 1829 годзе, а. Дзеражынскі стаўся рухавіком і ініцыятарам арганізаваньня Сант-Люіскага Ўнівэрсытэту ў штаце Місуры.

Кіраўніком езуіцкага ордэну Амэрыкі а. Франьцішак Дзеражынскі быў да лістапада 1830 году, калі яго заступіў Ірляндзец Пітэр Кенны. Дасьледнікі дапушчаюць, што пазбаўленьне а. Дзеражынскага займанага ім становішча дыктавалася ня зусім ведамымі прычынамі, больш праўдападобна закулісьнымі манэўрамі каталіцкае герархіі ЗША.

Пасьля адыходу зь кіраўніцтва ордэнам дзейнасьць а. Дзеражынскага аднак не замірае. На прапа-

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

# 50 ГОД БЕЛАРУСКАГА КІНАМАСТАЦТВА

**(Заканчэньне, гл. пачатак у № 13 і працяг у № 15)**

V.

У найбольш крытычнай сытуацыі для беларускага кінамастацтва беларускія пісьменьнікі, усьцяж адсоўваныя студыяй „Беларусьфільм" ад творчага зь ёю супрацоўніцтва, нарэшце самі праявілі ініцыятыву наладжаньня гэтага супрацоўніцтва. Напачатку кастрычніка 1972 году адбыўся адкрыты сход партыйнай арганізацыі Саюзу пісьменьнікаў Беларусі з прадстаўнікамі беларускіх кінаматаграфістых. Ужо тое, што сход быў скліканы зь ініцыятывы пісьменьнікаў і праходзіў пад дэвізам „Садружнасьць літаратараў і кінаматаграфістых", мела сваю вымову. Таксама мела сваю вымову й тое, што з дакладам на сходзе пра згаданую пастанову ЦК КПСС пра кінаматаграфію й заданьні пісьменьнікаў выступіў якраз пісьменьнік Алесь Асіпенка, што раней быў галоўным рэдактарам часапісу „Маладосьць" і нядаўна перад гэтым сходам быў назначаны галоўным рэдактарам студыі „Беларусьфільм".

Але найбольш характэрным было тое, што, калі гэная пастанова ЦК КПСС закранала бадайшто вылучна ідэялягічныя й палітычныя аспэкты савецкага фільму, дык і дакладчык, і ўдзельнікі дыскусіі на сходзе засярэджваліся галоўна на пытаньнях нацыянальнага характару беларускага фільму ды закранулі тыя пытаньні, што ў гэнай пастанове былі прамоўчаныя.

Алесь Асіпенка ў сваім дакладзе глыбака прааналізаваў спэцыфічна беларускія заганы фільмовай прадукцыі „Беларусьфільм", выявіў галоўныя прычыны гэтых заганаў ды падаў некаторыя спосабы, як іх пазбыцца. Першай і найбольш адчувальнай, на думку дакладчыка, заганай — малы ўдзел беларускіх пісьменьнікаў у якасьці аўтараў сцэнарыяў для фільмаў. Асіпенка цьвердзіў, што бязь беларускіх пісьменьнікаў, **„бязь іх удзелу ў дзейнасьці сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі, бязь іх зацікаўленасьці ў посьпехах беларускага кіно рашыць гэту праблему немагчыма".**

Другой галоўнай заганай сучаснага беларускага фільму, спрычыненай гэнай першай заганай, тое, што, як казаў дакладчык, **„многія нашы карціны не адлюстроўваюць жывыя нацыянальныя рысы... на іх можна ставіць фірменны знак любой студыі. Круты паварот можа прыйсьці толькі тады, калі за напісаньне сцэнарыяў, як літаратурнай асновы фільму, пасапраўднаму возьмуцца пісьменьнікі".** Моцна ненармальнай назваў дакладчык і наступную зьяву: **„Амаль пяцьдзесят гадоў існуе беларускае кіно, але ніхто не паклапаціўся аб тым, каб творы беларускіх клясыкаў сталі здабыткам экрану".** Што-ж датычыцца да экранізацыі твораў сучаснай беларускай літаратуры, дык у гэтай галіне, паводля дакладчыка, пануе „густаўшчына" й выпадковасьць. Цяжкі дакор кінуў дакладчык і пад адрысам тэлевізійных фільмаў, цьвердзячы, што **„тэлевізійнае аб'еднаньне экранізуе ўсё, што яму хочацца, толькі ня творы беларускіх аўтараў".**

Характэрна й тое, што ў дыскусіі над дакладам Алеся Асіпенкі і пісьменьнікі, і кінаматаграфістыя цалком згаджаліся з думкамі дакладчыка, дапаўняючы іх сваймі заўвагамі ды пацьвярджаючы канкрэтнымі прыкладамі. Прыкладам, пісьменьнік Вячаслаў Адамчык заявіў: **„ня пускаюць нас рэжысэры да сябе! Не, не ў прамым сэньсе. Менавіта — у творчым працэсе мы адчуваем нярэдка нейкае адчужэньне, няпрыняцьце нашых меркаваньняў, творчых намераў".**

Сход прыняў рэзалюцыю пра актывізацыю ролі пісьменьнікаў у далейшым разьвіцьці беларускага кінамастацтва, пра пашырэньне і ўмацаваньне творчых сувязяў паміж пісьменьнікамі і кінаматаграфістымі.

Сход гэты ўжо меў і некаторыя пазытыўныя вынікі. У канцы лютага 1973 году адбыўся 3-ці пленум праўленьня Саюзу кінаматаграфістых Беларусі, на якім з дакладам пра заданьні кінаматаграфістых БССР у сьвятле згаданай пастановы ЦК КПСС выступіў прадстаўнік ураду БССР — старшыня Дзяржаўнага камітэту Савету міністраў БССР па кінаматаграфіі У. Мацьвееў. Спасярод праблемаў, што не дазваляюць беларускім фільмам падняцца на адпаведную вышыню, дакладчык, абмінуўшы ўсе іншыя, назваў усё-ж адну з найважнейшых — праблему сцэнарную. У поўнай

© PDF: Kamunikat.org 2011 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2011

# „ЛЕ МОНД” ПРА ВАСІЛЯ БЫКАВА

Літаратурны крытык Клёд Фрыю (Claude Frioux) зьмясьціў у парыскай газэце „Ле Монд” за 28 лютага сёлета рэцэньзію на францускі пераклад аповесьці беларускага савецкага пісьменьніка Васіля Быкава „Сотнікаў”. Пераклад аповесьці зроблены з расейскага выданьня „Сотнікава”. Перакладніца — Бэрнадэта д'ю Крэст (Bernadette du Crest). Кніга выйшла ў выдавецтве Альбіна Мішэля, мае 208 бачынаў і каштуе 27 франкаў.

Рэцэнзэнт Фрыю піша, што, не зважаючы на стараньні перакладнікаў, уяўленьне францускага чытача пра савецкую літаратуру вельмі прыблізнае, абмежанае пераважна да колькіх вялікіх прозьвішчаў, гэткіх як Пастэрнак і Салжаніцын. І гэта, кажа рэцэнзэнт, прыцямняе бачаньне багацьцяў сучаснае савецкае культурнае рэчаіснасьці. На фоне гэтага, кажа рэцэнзэнт, асаблівага значаньня набывае выданьне ў Францыі кнігі Васіля Быкава „Сотнікаў”. „Аповесьці гэтага 50-гадовага беларускага пісьменьніка, — кажа Фрыю, — першага із сваіх суродзічаў перакладзенага тут („Мёртвым не баліць”, 1966; „Сотнікаў”, 1970; „Воўчая зграя”, 1974), зьяўляліся ў часапісе ‚Новый мир'. Сваёй формай, яны належаць да найбольш кананізаванага й найбольш афіцыйнага жанру ваенных аповесьцяў, праз якія часта праходзіць самае куртатае палітычнае маралізатарства. Аднак у гэтай аправе, магчыма пад ейным прыкрыцьцём, Быкаў падае нам найбольш стройнае бачаньне сьвету”.

Рэцэнзэнт адзначае, што на пачатку свае творчасьці Быкаў трымаўся прынцыпу крытычнага аб'ектывізму й гістарычнага ходу падзеяў, як Сіманаў у „Жывых і мёртвых” або Бондараў у „Цішыні”.

У ваповесьці „Мёртвым не баліць” адмаляваная пачварная постаць ахвіцэра, апантанага паліцыйным тэрарызмам, спароджаным сталіншчынаю. Але, кажа рэцэнзэнт, неўзабаве Быкаў „адмовіўся ад гэтае выкрывальніцкае палітыкі, крыніцы інтэлектуальнага суцешваньня”. „У ваповесьці ‚Сотнікаў', прыкладам,— піша Фрыю далей, — апісваецца эпізод з вайны, дзе ўсё праходзіць паводля нормаў: партызаны ў вакружэньні, найміты-паліцаі на службе ў Немцаў, колькі прадстаўнікоў жыхарства пад акупацыяй. Ніякае сатыры. Гэта манерай пісьма Быкаў змушае літаратуру функцыянаваць нязвычайным спосабам.

„Ад часу апублікаваньня ‚Сотнікава', — кажа Фрыю, — аповесьці Быкава (рэцэнзэнт, пішучы пра творы Быкава, усюды ўжывае тэрмін „раман” — Я. З.) разгортаюцца менш-больш паводля наступнае схэмы: малыя групы людзей, што апынаюцца вонках усялякае сацыяльнае структуры, даводзяцца абставінамі, акружэньнем і небясьпекай, да стану першабытнае адзіноты. Руплівa апісаныя абставіны гэтага разрыву нагнятаюць атмасфэру аблогі: туман, сьнег, дрыгва стаюцца адзнакамі гранічнае сытуацыі, у якой замкнутыя гэроі.

„Быкаў, пасьля сталінскае папяровае схэмы уводзіць ізноў вонкавы сьвет, перавыяўляючы яго.

„Апавяданьне, скандэнсаванае паглынальнай гусьцінёй рэчаў, — піша францускі крытык, — складаецца з маналёгаў, у якіх гэроі адзін па адным выказваюць агонію сваіх перажываньняў або сваю прагу да жыцьця. Адцятыя ад усяго, яны ня могуць больш камунікавацца міжсобку. На гэтым апакаліптычным фоне пачуцьці абарачаюцца свайго роду бессаромнасьцяй. У ‚Сотнікаве' чалавек з адчаю пераходзіць у гэраізм праз зачараванасьць сьмерцяй. На чалавека, якому нічога не пагражае, ягонае жыцьцё ўзьдзейвае падобным зачараваньнем: ён пачынае ненавідзець свайго таварыша, што абцяжае яго, і пачынае глядзець на зраду, робленую дзеля стратэгічнага меркаваньня, як проста на зраду: уступленьне ў армію Ўласава. Іншыя, больш эпізадычныя пэрсанажы, у рысах свае буркліваcьці, не пазбаўленыя драматычнае высакароднасьці. Бо тут нікога не ацэньваюць, не асуджаюць.

„Творчасьць Быкава, — піша далей Фрыю, — гэта завяршэньне жаданьня ‚дэгэраізацыі', якая парывае з маралізатарскай вобразнасьцяй, і якую трэба запісаць у актыў пасьлясталінскае літаратуры. Але ў вадрознасьць ад тых, што ўзыходзяць да Чэхава з адзіным, бедным і саматужным турбаваньнем аб праўдападобнасьці, Быкаў дадае да свайго радыкальнага псыхалягізму вымер вышэйшага трагізму.

„Простым перамешваньнем вайны й сьнегу, — піша далей Фрыю, — пульсаваньнем жыцьця й сьмерці, бязь іншае чартаўні, як толькі тая, што вынікае з самых падзеяў, Быкаў паказвае, як чалавек стаецца мучанікам або здраднікам. Ягоная думка, вызваленая ад усялякае рыцарычнасьці, выяўляецца асаблівай. Тымбольш, што вызваленая яна ад маніхейства ў розных дозах, ад якога творы найбольш крытычныя, нат найбольш супярэчлівыя творы савецкае літаратуры, маюць гэтулькі цяжкасьцяў вызваліцца.

„Суровая нармальнасьць сьвету Быкава, — кажа крытык, — натхняе яшчэ на адно разважаньне: тут ні просьбаў, ні парадоксу, ні фаталізму; ход у кірунку ахвяры або ў кірунку зрады застаецца актам простага выкананьня, этычнага й гістарычнага. Але манера, якою Быкаў агаліў свае карані, вызваляе яго ад усялякага маралізатарства. Сутычка ўзагрудкі наканаванасьці із свабодай паўстае таксама ўва ўсёй паўніні. адначасна трагічнай і цудатворнай. Быкаў дае магчымасьць пабачыць, якой вялікай магла-б быць літаратура матар'ялістычнага натхненьня.

„Да заслугаў гэткіх пісьменьнікаў, як Салжаніцын, — піша Фрыю, — залічаюць перш-наперш — і слушна — пашырэньне мэтафізычнага бачаньня. Зьяўленьне-ж у Савецкім Саюзе твораў гэткага пісьменьніка, як Быкаў, паказвае, што гэткае дасьпяваньне — ані не ізаляваная й не экзатычная зьява. У ‚Сотнікаве' Быкаў займаецца тэю-ж пякучаю тэмай, што й Салжаніцын: арміяй Уласава, але з манерай пісьма куды менш традыцыйнай, зь філязофскім падыходам менш адназначным, а значыцца больш мадэрным. Вось чаму пераклад ‚Сотнікава' выдатна папярэджаны прадмоваю Жана Каталя, гэта падзея, якую павінны ўлічваць усе, хто хоча бачыць савецкую літаратуру, якою яна ёсьць”.

**Я. З. і А. А.**

# У БІНіМ ПРА АЛЯКСАНДРА САЛЖАНІЦЫНА

Др. Васіль Глазкоў, пасьля сваіх нядаўных сустрэчаў з расейскім пісьменьнікам Аляксандрам Салжаніцынам, зрабіў 15 лютага рэфэрат у Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку на тэму „Уражаньні пра сустрэчу з Аляксандрам Салжаніцынам і ягоны пагляд на нацыянальнае пытаньне ў Савецкім Саюзе”. Уражаньне на сп. Глазкова Салжаніцын зрабіў вельмі дадатнае ня толькі як пісьменьнік, але й як чалавек: жвавы, праніклівы, глыбака рэлігійны. Нацыянальнае пытаньне, сказаў прэлегент, Салжаніцын уважае за вельмі важную й пякучую праблему, пра што ён выказваўся на аднэй із сваіх леташніх прэсканфэрэнцыяў ды пра што піша ў зборніку „Спад глыбаў”. Калі мерацъ інтэнсыўнасьць нацыянальнае праблемы на 12-бальнай шкале, кажа Салжаніцын, дык у 1917 годзе сіла нацыянальных рухаў была нумарам два, а цяпер — нумарам дзесяць. Нацыянальныя рэспублікі, на думку Салжаніцына, сказаў прэлэгент, „запраўды ў каляніяльным стане”.

Пасьля рэфэрату прэлегент адказаў на пастаўленыя яму пытаньні ды адбыўся жвавы абмен думкамі. Др. Ст. Станкевіч, прыкладам, выказаў пагляд, што Салжаніцын у сваім выдатным творы „Архіпэляг Гулаг”, на вялікі жаль, нічога не напісаў пра катэгорыю палітвязьняў нерасейскіх нацыянальнасьцяў, зьняволеных за свае нацыянальныя перакананьні, і гэтай сваёй няўвагай да гэтае важнае катэгорыі зьняволеных спрычыніў, фактычна, шкоду нерасейскім народам, што змагаюцца за адваяваньне сваіх нацыянальных правоў.

Аналіз Салжаніцына, як змагара із злом, пісьменьніка й пазытыўнага ідэялёга зрабіў у сваім выступленьні праф. Ант. Адамовіч. Адзначыўшы маральную сілу Салжаніцына, як змагара, глыбіню ягонага таленту, як пісьменьніка, праф. Адамовіч зьвярнуў увагу на непасьлядоўнасьць трактаваньня нацыянальнага пытаньня ў Савецкім Саюзе ў зборніку „Из-под глыб”, асабліва ў артыкуле Шафарэвіча, у якога выразна выяўляюцца элемэнты культурніцкага імпэрыялізму ў дачыненьні да Беларусаў і Ўкраінцаў.

Рэфэрат др. В. Глазкова даў магчымасьць удзельнікам сходу бліжэй азнаёміцца зь нязвычайна актуальнымі й важнымі аспэктамі й праблемамі сучаснасьці.

**Я. Запруднік**

# АЙЦЕЦ ФРАНЬЦІШАК ДЗЕРАЖЫНСКІ

**(Заканчэньне з 2-й бачыны)**

нову некаторых япіскапаў ён арганізоўвае і закладае „Гоўлы Крос Калэдж” (Каледж Сьвятога Крыжа) у горадзе Ўорчэстар у штаце Массачусэтс і поўнасьцяй аддаецца выкладніцкай дзейнасьці на Джорджтаўнскім Унівэрсытэце. Шмат увагі аддае а. Дзеражынскі дапамозе першым эмігрантам пасьля паўстаньня 1830-31 гадоў. Але гэта асобная тэма. Памёр а. Дзеражынскі ў 1850 годзе ў горадзе Фрэдрыку, штат Мэрылэнд.

Ці ў аднаго чытача-Беларуса можа зьявіцца думка: ну, а як зь ягонай беларускасьцяй? Бо-ж дасюль тыя, праўда, нешматлікія, польскія дасьледвальнікі залічалі а. Дзеражынскага да Палякоў. На чым мы можам грунтаваць нашыя прэтэньсіі?

Паўставала, бязумоўна, і ў мяне такое пытаньне (надзвычай асьцярожныя мы, Беларусы), ды адказ на яго я даў на аснове гэткіх дадзеных і разважаньняў:

Перш-наперш, а. Франьцішак Дзеражынскі народжаны на Беларусі й паходзіць із старыннага аршанскага роду шляхты Дзеражынскіх-Ястрабцоў — роду, які фігуруе ў аршанскіх шляхоцкіх даведніках пару стагодзьдзяў.

Нідзе сам сябе а. Дзеражынскі Палякам не называе.

Цяга ягоная й памяць аб родных мясьцінах не паслабілася праз доўгія гады, і ён трымаў лістоўную сувязь із сваімі школьнымі сябрамі ды цікавіўся жыцьцём на бацькаўшчыне — гэта сьцьвярджаюць архіўныя дакуманты й лісты.

Ягоная абыякавасьць да Польшчы кідаецца ў вочы й зьдзіўляе польскіх дасьледвальнікаў, і яны пішуць гэтак: „Зусім нявытлумачальна, што айцец Дзеражынскі ў сваіх дзёньніках і лістох аніводнага разважаньня не пасьвяціў тэме і пытаньню Польшчы”.

Дзівіць польскіх дасьледнікаў і той факт, што будучы такім аддaным каталіком, а. Дзеражынскі не абурыўся, калі даведаўся, што сёстры ягоныя павыходзілі замуж за праваслаўных, ці, як пішуць Палякі, „за схізматыкаў”. Факт-жа гэты гэтак ясны нам, Беларусам — мяшаныя сужэнствы ў нас не навіна, мы да гэтага прывыклі й ставімся да гэтага нармальна, з пашанай як да кажнага сужэнства. Гэта тыповая беларуская рыса, якая была ўласьцівая й а. Дзеражынскаму.

Мова ягоных лістоў перасыпаная беларусізмамі, што часам польскія дасьледнікі тлумачаць зрусыфікаванасьцяй шляхты. Для беларускага-ж дасьледніка гэта служыць паказьнікам беларускага паходжаньня й роднасьці беларускае мовы.

Наагул-жа пытаньне беларускасьці і дзейнасьці езуітаў у Полацку ды Полацкае Акадэміі ў нас мала дасьледаванае; прынятыя хутчэй расейская і польская формулы — што гэта ўсё польскае. Пагляд, мне здаецца, ня зусім правільны. Відавочна, што польшчына сярод езуітаў на Беларусі панавала. Аднак бясспрэчна, што там была й беларускасьць. Тымчасам з выпускнікоў Полацкае Акадэміі да нашае культурнае спадчыны залічаецца толькі пісьменьнік Ян Баршчэўскі, — сучасьнік а. Франьцішка Дзеражынскага. Але-ж у каталёгах Акадэміі мы бачым дзесяткі вучняў, якія і паступаючы й канчаючы Акадэмію ўважалі сябе або за „Ліцьвіноў” або за выхаджэнцаў зь Белае Русі. Іхных біяграфіяў і дзейнасьці мы тымчасам не дасьледвалі, ня мелі магчымасьці дасьледваць. Іхную дзейнасьць у архівы схавала расейская цэнзура. А можа сярод іх будзе ці адзін Баршчэўскім для нас. Можа будуць яшчэ большыя адкрыцьці.У Амэрыцы, бяссумлеўна, прапробленую працу айца Франьцішка Дзеражынскага трэба ўважаць за выдатную беларускую спадчыну.

**В. Кіпель**

## ДАЛЕЙШЫЯ АХВЯРЫ НА ФОНД БЕЛАРУСКІХ ПАДРУЧНІКАЎ

На Фонд Беларускіх Падручнікаў прыслалі ахвяры беспасярэдня ў Выдавецкі Камітэт пры ККБК: І. Ананімная ахвяра — $1,000.00; 2. Сп. М. Латушкін — $10.00; 3. Сп. К. Калоша — $100.00; 4. Сп-ня А. Каранеўская (другі раз) — $35.00; Спва В. і Ф. Бартулі — $65.00; Сп. Р. Беразоўскі — $20.00. **Разам — $1,230.00. Атрымана раней — $1.116. Усяго сабрана ў Канадзе—$2,346.00.**

Заснавальнікі Фонду Беларускіх Падручнікаў і Выдавецкі Камітэт шчыра дзякуюць усім ахвярадаўцам.

**Папраўка:** У „Беларусе” № 212 у сьпіску ахвярадаўцаў пададзена: „сп-ня В. Махнач — $200.00”, а павінна быць: **„сп-ства В. і М. Махначы — $200.00.”** Перапрашаем за памылку.

Адрыс Выдавецкага Камітэту пры ККБК, куды можна слаць ахвяры на Фонд Беларускіх Падручнікаў, наступны:

Dr. Raisa Zuk-Hryskievic
54 Mary Street
Barrie, Ontario, Canada.
L4N 1T1

---

сугучнасьці із згаданым пісьменьніцкім партыйным сходам ён цьвердзіў: **„Асноўная прычына слабасьці нашага сцэнарнага зьвяна заключаецца ў тым, што вельмі абмежаванае кола людзей выступае аўтарамі, што няма яшчэ сталай творчай сувязі зь пісьменьніцкай арганізацыяй, з журналістымі рэспублікі”.**

Гэтыя словы дакладчыка дапоўніў у дачыненьні да дакументальных фільмаў сакратар Саюзу кінаматаграфістых Беларусі У. Цясьлюк. Выступіўшы ў дыскусіі, ён зазначыў: **„Асноўная бяда, ў тым, што рэжысэры - дакумэнталістыя прымаюцца рабіць фільмы на шаблённых сцэнарыях, якія пішуць некваліфікаваныя людзі. За напісаньне сцэнарыяў бяруцца ўсе: рэжысэры, апэратары, рэдактары. Гэта не садзейнічае прытоку сьвежых таленавітых сіл з асяродзьдзя маладых пісьменьнікаў і журналістых”.**

Пасьля адкрытага партыйнага пісьменьніцкага сходу й 3-га пленуму Саюзу кінаматаграфістых Беларусі ў 1973 годзе былі рэальныя асновы чакаць некаторых зьменаў на лепшае прынамся ў сцэнарнай галіне.

VI.

І праўда, былі некаторыя зьмены на лепшае, але таксама, як пабачым далей, былі й зьмены на горшае. І ў гэткай супярэчлівай атмасфэры праходзіла сьвяткаваньне 50-годзьдзя беларускага кінамастацтва.

Урачыстасьці, прысьвечаныя паўвяковаму юбілею беларускага кіно, адбываліся на працягу ўсяго сьнежня 1974 году. Ува ўсіх кінатэатрах Беларусі, а таксама ў Маскве й Ленінградзе ды ў сталіцах усіх саюзных рэспублікаў праходзілі ў гэтым месяцы фэстывалі лепшых беларускіх фільмаў. У пэрыядычным друку БССР было надрукавана цімала артыкулаў, прысьвечаных беларускаму кінамастацтву. 26 студзеня ў Акруговым Доме ахвіцэраў у Менску адбыўся ўрачысты сход, прысьвечаны юбілею.

На гэтым сходзе, як і ў пэрыядычным друку вельмі шмат казалася пра колькасныя дасягненьні беларускага кінамастацтва. Намесьнік стршыні Дзяржаўнага камітэту Савету міністраў БССР па кінаматаграфіі, ён-жа й старшыня сьвяткавальнай камісіі П. Жукоўскі паінфармаваў у друку, што ў сучасны мамэнт у фоньдзе кінапракату Беларусі налічваецца каля 150 паўнамэтражных мастацкіх і 400 дакумэнтальных і навукова-папулярных фільмаў, створаных майстрамі беларускага кіно. Апошнім часам — інфармаваў ён далей — студыя „Беларусь фльм” выпускае ў год 5 мастацкіх, 10-13 тэлевізійных і звыш 70 назоваў дакумэнтальных і навукова-папулярных фільмаў. Падчырквалася таксама, што беларускія фільмы маюць за собой вялікія дасягненьні мастацкага й ідэйнага характару. Але пра гэтыя якасныя дасягненьні беларускіх фільмаў гаварылася, здаецца, адно зь юбілейнага абавязку.

Гэта пацьвярджае й наступная вельмі характэрная зьява. З нагоды юбілеяў, асабліва паўвяковых, установы-юбіляры, як правіла, узнагароджваюцца высокімі дзяржаўнымі ордэнамі. Прыкладам, беларускі жаноцкі часапіс „Работніца і сялянка” на свае 50-я ўгодкі таксама ў сьнежні летась быў узнагароджаны ордэнам „Працоўнага Чырвонага Сьцягу”, а часапіс для дзяцей „Бярозка”, што летась у сьнежні адзначаў свой 50-цідзесяцігадовы юбілей — ордэнам „Знак пашаны”. Затое ні кінастудыя „Беларусьфільм”, як цэласьць, ні ейнае творчае аб'еднаньне „Летапіс” для вытворчасьці дакумэнтальных і навукова-папулярных фільмаў, ні творчае аб'еднаньне тэлевізійных фільмаў на свой юбілей узнагароджанымі дзяржаўнымі ордэнамі ня былі. Былі толькі ўзнагароджаныя найніжэйшымі ўзнагародамі — ганаровымі граматамі й граматамі Вярхоўнага Савету БССР некаторыя, і то ня многія, мастацкія, адміністрацыйныя й тэхнічныя працаўнікі студыі „Беларусьфільм” і працаўнікі кінапракату БССР. Гэты факт мае сваю вымову й дае аснову думаць, што й партыя ня вельмі задаволеная зь дзейнасьці студыі „Беларусьфільм”.

Каб ня было ў гэтым ніякіх сумлеваў, вернемся да дакладу прадстаўніка ўраду БССР, а тым самым і партыі — старшыні Дзяржаўнага камітэту Савету міністраў БССР па кінаматаграфіі У. Мацьвеева на 3-ім пленуме праўленьня Саюзу кінаматаграфістых БССР у лютым 1973 году. Сваю крытыку беларускіх фільмаў на сучасныя тэмы з жыцьця работнікаў, калгасьнікаў і працоўнай інтэлігенцыі У. Мацьвееў абагульніў наступнымі словамі: **„У сучасным беларускім кінамастацтве яшчэ няма героя, які-б стаў уладаром дум, які не аднэй нейкай рысай, не асобнай граньню характару, а ўсім зьместам выдатнай асобы поўна і ўсебакова адлюстраваў-бы дух часу, тыповыя рысы чалавека нашай эпохі”.**

Уся дасюлешняя даўгагадовая кампанія за павышэньне якасьці беларускага фільму й выкарыстоўваньне ў кінавытворчасьці сваіх мастацкіх сілаў мела ўсё-ж некаторыя пазытыўныя вынікі ў фільмах, створаных у 1973 і 1974 гадох. Першнаперш у вытворчасьці фільмаў ужо бадайшто вылучна выкарыстоўваліся рэжысэры-пастаноўшчыкі сваёй беларускай студыі, заміж запрошаных з Масквы й Ленінграду, як было раней. Канкрэтным паказальнікам большае ўдзельнае вагі беларускіх рэжысэраў было тое, што на 50-я ўгодкі беларускага кіно чатыром рэжысэрам-пастаноўшчыкам студыі „Беларусьфільм” была прысвоеная годнасьць заслужанага дзеяча мастацтваў Беларускай ССР, два беларускія рэжысэры - пастаноўшчыкі былі ўзнагароджаныя Ганаровымі Граматамі Вярхоўнага Савету БССР і адзін — Граматай Вярхоўнага Савету БССР.

Апрача гэтага, студыя пачала больш прыцягваць беларускіх пісьменьнікаў у якасьці аўтараў сцэнарыяў. Да гэтага часу сталым сцэнарыстым дакумэнтальных фільмаў працаваў фактычна толькі паэта Анатоль Вялюгін ды выпадкова пісалі сцэнарыі пераважна для экранізацыі сваіх собскіх твораў пісьменьнікі Кастусь Губарэвіч, Аркадзь Маўзон, Іван Шамякін, Уладзімер Караткевіч, Андрэй Макаёнак, Васіль Быкаў. На працягу двух мінулых гадоў у якасьці сцэнарыстых спатыкаем ужо й новых беларускіх пісьменьнікаў, як Алесь Асіпенка, Генадзь Бураўкін, Мікалай Матукоўскі, Іван Пташнікаў, Аркадзь Пінчук ды ведамая дасьледніца беларускай абраднасьці й народнай песьні Зінаіда Мажэйка.

Але прыход у кінамастацтва значнае колькасьці беларускіх пісьменьнікаў ня шмат мог спрычыніцца да ўзбагачаньня нацыянальнага характару беларускіх фільмаў, тэматыка й праблематыка якіх цяпер больш строга рэглямэнтаваная й кантраляваная, чымся раней. Прынятая ў жніўні 1972 году пастанова ЦК КПСС пра тое, што галоўная ўвага ў фільмах павінна быць зьвернутая на ідэялягічныя й палітычныя праблемы, строга абавязвае й сяньня й зьвязвае собскую ініцыятыву сцэнарыстага. Тым ня менш, сам факт большага ўдзелу беларускіх пісьменьнікаў у кінавытворчасьці — зьява ўсё-ж пазытыўная.

Затое ў фільмах навет на беларускія тэмы студыя „Беларусьфільм” на галоўныя ролі паранейшаму запрашае чужых актораў, а акторам беларускіх тэатраў даручае адно ролі другарадныя й эпізадычныя. Гэтак для створанага летась мастацкага фільму „Полым” студыя запрасіла артыстых з Масквы, Ленінграду, Кіева, Рыгі, а ролю беларускага селяніна даручыла лятувіскаму актору Бронюсу Бабкаўскасу. У выпушчанай летась на экраны рэспублікі каляровай музычнай камэдыі „Ясь і Яніна” пра гісторыю каханьня маладых людзей сучаснай беларускай вёскі ў галоўных ролях зьнятая артыстка Талінскага расейскага драматычнага тэатру Сьвят-

# НЯВЕДАМЫ РАЗЬДЗЕЛ У БІЯГРАФІІ МІХАСЯ КЛІМКОВІЧА

**(Заканчэньне. Пачатак у № 215 „Беларуса")**

У той вечар, калі я меў першую даўжэйшую й, як я перакананы й сяньня, шчырую й зь ягонага боку гутарку зь Міхасём Клімковічам на другі дзень пасьля ягонага звальненьня спад арышту, ён быў яшчэ моцна ўсхваляваны й навет зьбянтэжаны тым, што сталася толькі ўчора. Ягоныя выказваньні й рэплікі былі хаатычныя й фрагмэнтарычныя. Пра сваю дзейнасьць і ролю ў беларускай літаратуры да вайны ён стараўся гаварыць агульна й як найменш, відаць, тэма гэтая была яму ня вельмі прыемная. Затое колькі разоў ён зазначаў, што цяпер, будучы спакойным за сваё жыцьцё, ён усе свае сілы аддасьць літаратурнай дзейнасьці. Трымаўся ён з годнасьцяй, не абвінавачваў самога сябе за сваю даваенную літаратурную й ня літаратурную дзейнасьць, затое, — добра гэта памятаю — ён моцна падчыркваў, што абставіны, у якіх яму даводзілася жыць і працаваць, асабліва ў гадох крывавае яжоўшчыны, былі гэткія жахлівыя, што поўнасьцяй можа іх зразумець адно той, хто сам іх перажыў.

Калі назаўтрае раніцай, выходзячы на працу ў раённую ўправу, я зь ім разьвітваўся й сказаў, каб ён пачакаў у мяне ў хаце, а за нейкую паўгадзіны прыедзе тая самая фурманка, што прывезла яго ўчора ў Барысаў, каб адвезьці яго дамоў у Сялітрынкі, Клімковіч сказаў, што проста ня ведае, як мне дзякаваць за сваё выратаваньне. Я-ж адказаў яму, што гэта было ня больш і ня менш, як выкананьне майго натуральнага абавязку, як беларускага патрыёта ў дачыненьні да другога беларускага патрыёта. Ніякіх палітычных забавязаньняў я яму не прапанаваў, а ён із свайго боку, — і ў гэтым выяўлялася таксама ягоная чалавечая годнасьць, — ніякіх абяцаньняў што да сябе самога не рабіў.

Клімковіч стараўся быць як мага няпрыкметным навонкі. Я не заўважыў за цэлы год часу, каб ён зь кім-небудзь з барысаўцаў часта кантактаваўся, або каб дзе-небудзь у публічных месцах наагул паказваўся. Адзіны вынятак рабіў ён для барысаўскага Беларускага тэатру. Яшчэ ў лістападзе 1941 году ўдалося зарганізаваць у Барысаве Беларускі тэатр, дырэктарам якога быў малады энтузіясты беларускай культурнай дзейнасьці, Украінец паводле нацыянальнасьці, Антон Рудэнка, а рэжысэрам і мастацкім кіраўніком Іван Кір'янаў, добра ведамы шмат якім Беларусам на эміграцыі. Выэміграваўшы ўлетку 1944 году на Захад, ён у апошняй фазе вайны й па вайне актыўна працаваў аж да свайго загадкавага самагубства ў горадзе Рэгэнзбургу ў папулярным у Заходняй Нямеччыне ансамблі „Жыве Беларусь". Барысаўскі тэатр, укамплектаваны з прафэсыйных і вельмі здольных артыстых аматараў, быў на высокім мастацкім і нацыянальным узроўні й праславіўся гэткімі беларускімі пастаноўкамі, як „Паўлінка" й „Раськіванае гняздо" Я. Купалы, „Пінская шляхта" В. Дуніна-Марцінкевіча, „Пан Міністар" Ф. Аляховіча й іншымі, а так-жа вельмі добрым хорам пад кіраўніцтвам Кучко.

Міхась Клімковіч, паводля жанру сваёй творчасьці галоўна драматург, часта наведваў пастаноўкі гэтага тэатру. І адна адзіная за ўвесь гэты час мая канкрэтная прапанова Міхасю Клімковічу была тая, што я аднойчы папрасіў яго напісаць рэцэньзію на адну з пастановак тэатру ў менскую „Беларускую газэту". Клімковіч зрабіў гэта ахвотна, хоць рэцэньзію сваю падпісаў не сваім прозьвішчам, а псэўдонімам.

Зы мной Міхась Клімковіч сутракаўся вельмі часта, але стараўся як найменш наведваць мяне ў раённай управе, а звычайна прыходзіў да мяне на прыватнае памешканьне. Пры хаце, у якой я жыў у Барысаве, быў ладны садок, абгароджаны разам з хатай наглуха ад вуліцы высокімі дошкамі (гэтак пераважна адгароджваліся ў савецкім часе собсьнікі прыватных дамоў у горадзе ад непажаданага чужога вока).

Вяртаючыся папаўдні з працы ў раённай управе дамоў, я часта заставаў Клімковіча ў садку каля маёй хаты, дзе ён, чакаючы на мяне, звычайна ляжаў на траве й штосьці чытаў або пісаў.

Нашыя гутаркі былі пераважна на літаратурныя тэмы. Бязь ніякага накіроўваньня з майго боку, а цалком із собскае ініцыятывы Клімковіч перапрацоўваў тады апублікаваную яшчэ ў 1937 годзе сваю драматычную паэму „Кацярына Жарнасек" на беларускую гістарычную тэму з XVI стагодзьдзя. Летам 1942 году ён колькі разоў чытаў мне сьвежа напісаныя ўрыўкі новага варыянту гэтага твору. Беларускі паэта барысаўчанін, які ў гэным часе працаваў у Барысаве настаўнікам і быў добра мне знаёмы, па вайне ў сваім уводным артыкуле да „Збору твораў у двух тамох" Міхася Клімковіча, выдадзенага ўжо па ягонай сьмерці ў 1959 годзе Дзяржайным Выдавецтвам Беларускай ССР, пра гэты Клімковічаў твор пісаў:

**„Драматычная паэма „Кацярына Жарнасек" сваім ідэйным астрыём накіравана супроць ілжывай контррэвалюцыйнай „тэорыі" беларускіх нацыяналістаў аб „залатым веку". Нацыяналісты крычалі аб тым, што нібыта культура на Беларусь ішла з Захаду, што быццам той пэрыяд, калі наш народ знаходзіўся пад уладай польскіх паноў і літоўскіх князёў, быў „залатым векам". Міхась Клімковіч выкрывае гэты міф, паказвае, што XVI стагодзьдзе было стагодзьдзем жорсткага сацыяльнага і нацыянальнага ўціску беларускага народу . . ."**

І ўзапраўды гэткую ідэйную ськіванасьць мела драматычная паэма „Кацярына Жарнасек" у сваім першапачаткавым савецкім варыянце. Цяпер-жа перапрацоўваў яе пісьменьнік ужо ў нацыянальным пляне.

Апрача гэтага, Міхась Клімковіч пачаў пісаць у гэным 1942 годзе новую сваю драматычную паэму „Барбара Радзівіл", урыўкі зь якое чытаў ён мне летам 1942 году ў садку каля майго памешканьня. Паэма пісалася таксама ў зырка нацыянальным беларускім пляне.

Напачатку 1943 году, калі ўжо можна было прадбачыць, што савецкая армія ў сваім пераможным паходзе на захад зойме й Беларусь, у захоўваньні Клімковіча й гутарках ягоных зы мной заўважаліся выразны неспакой і падэнэрвавансьць. Я заўважаў, што ён хоча нешта мне сказаць, на штосьці намякае, але ўсьцяж паўстрымоўваецца выказаць сваю думку да канца. І вось аднойчы вясной 1943 году ён усё-ж сказаў, што з прыходам савецкае арміі ягоная доля будзе незайздросная. Калі-б ня тое, — казаў ён далей, — што я за яго паручыўся, ён пайшоў-бы да партызанаў, каб гэтым застрахавацца перад бальшавікамі, як рабілі тады многія ў Усходняй Беларусі, у тым ліку й добра ведамыя мне асабіста Беларусы, як перакананыя антыбальшавікі. Але на гэта ён ня можа адважыцца, — казаў Клімковіч, — каб не падвесьці мяне.

Я колькі мог, адгаворваў яго ад гэтае думкі. Калі-ж пабачыў, што ён ўсёроўна застаецца пры сваім ды што ўсё-ж магчыма пойдзе ў партызаны, я парадзіў яму інсцэнізаваць свой пераход да партызанаў гэтак, каб выглядала, што быццам ня ён пайшоў у партызаны, а партызаны схапілі яго сілаю, як часта яны тады й рабілі, сілком і подступам хапаючы нявыгадных ім Беларусаў. Клімковіч нічога не сказаў, ці скарыстае ён з гэтай магчымасьці, ці не, але было відаць, што ён успакоіўся.

І вось колькі дзён пазьней аднае раніцы, калі я быў яшчэ ў ложку, раптам зьявіўся да мяне ў хату старшыня Неманіцкай воласьці Валатоўскі, у склад якой уваходзіла й Клімковічава вёска Сялітрынкі, і ўсхваляваным голасам паведаміў:— Сяньня ноччу напалі на Сялітрынкі партызаны і ўвялі з сабой нашага пісаццеля! — Вестка гэтая ня была для мяне неспадзеўкай. За сябе я не патрабаваў баяцца. У гэным часе апэравала ў Барысаве ўжо іншая адзінка С. Д. дый ёй было не да Клімковіча. У гэным часе ўвесь Барысаўскі й суседнія раёны танулі ў полымі партызанскай вайны.

Міхась Клімковіч, як згадвалася ў першай частцы гэтага артыкулу, памёр 5 лістапада 1954 году. На леташнія ягоныя ўгодкі ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 22 лістапада паэта Станіслаў Шушкевіч у прысьвечаным гэтым угодкам артыкуле пра ваенныя гады Клімковіча пісаў: **„На пярэдадні Вялікай Айчыннай вайны пісьменьнік быў на лячэньні на адным зь літоўскіх курортаў. Калі пачалася вайна, ён зь цяжкасьцю прабіраецца ў Беларусь. Тут партызаны і падпольшчыкі далі М. Клімковічу прытулак, а праз пэўны час хворага вывезьлі самалётам у Маскву".** Гэта ўсё, што павінен ведаць падсавецкі чытач пра ваенныя гады пісьменьніка. Часапісы „Полымя" й „Беларусь", што таксама ў сваіх лістападаўскіх нумарох за леташні год прысьвяцілі артыкулы на Клімковічавы ўгодкі, пра ваенныя гады ягоныя не згадалі ніводным словам.

Былы савецкі пісьменьнік Андрэй Клёнаў, што летась апыніўся на Захадзе й часамі піша скрыпты для Радыя „Свабода", наведваў Міхася Клімковіча перад самай вайной у Менску, і па вайне ў Маскве, ён-жа й пераклаў на расейскую мову ягоную драматычную паэму „Кацярына Жарнасек". У ваднэй сваёй радыёвай перадачы на Беларусь Андрэй Клёнаў пісаў: **„Па вайне Клімковіч расказваў мне, што ён застаўся быў пад гітлераўскай акупацыяй, не пасьпеўшы эвакуавацца, перахоўваўся ў свёй роднай вёсцы на Барысаўшчыне на падстрэшшы ў жонкі, а пасьля перайшоў да партызанаў".** З гэтага выглядае, што ўсю сваю гісторыю зь ягоным арыштам падчас акупацыі й звальненьнем спад арышту, ён затаіў.

Яшчэ перад канцом вайны Міхась Клімковіч аднавіў сваю творчасьць у Саветах і ў гэткім-жа нізкапаклоньніцкім і бальшавіком, і Расеі духу, як і да вайны. Ужо ў 1944 годзе ён напісаў верш, што стаўся Дзяржаўным гімнам Беларускай ССР. Ён пачынаецца словамі:

Мы — Беларусы з братняю Русьсю  
Разам шукалі к шчасьцю дарог,  
У бітвах за волю, ў бітвах за долю,  
Зь ёй здабылі мы сьцяг перамог!

У гэткім-жа нізкапаклоньніцкім тоне ўслаўляе Клімковіч ў далейшых словах гімну „дабрадзействы" Леніна й Камуністычнай партыі для беларускага народу. Апрача колькіх іншых кнігаў, па вайне апублікаваў Міхась Клімковіч драматычную трылёгію „Георгій Скарына" й лібрэта да опэры „Кастусь Каліноўскі", у якіх асэнсаваў галоўных гэрояў з груба тэндэнцыйных савецкіх пазыцыяў і ў прарасейскім духу.

У 1946 годзе быў выдадзены ў Менску невялічкі зборнік апавяданьняў і нарысаў Міхася Клімковіча „Лясное возера" пра партызанскую дзейнасьць над возерам Палік, што сваёй паўдзённай часткай уваходзіць у паўночную частку Барысаўскага раёну, і ў самым горадзе Барысаве. У другой палавіне 50-х гадоў мне, будучы тады ў Мюнхэне, давялося прачытаць ці гэты зборнік, ці часапісныя варыянты зьмешчаных у ім твораў (сяньня дакладна ня памятаю). Мяне заінтрыгавала тады ў гэтых творах адно: у той час, калі вельмі дакладна прыгадаў аўтар у гэтых сваіх творах навет найдрабнейшыя аўтэнтычныя факты й асобы з часоў нямецкае акупацыі ў Барысаве й Барысаўскім раёне, сярод названых ім „здраднікаў" ён нат ня ўспомніў майго прозьвішча, тым часам як савецкі друк у гэным часе й да самых апошніх гадоў не абмінае мяне сваёй увагай, згадваючы пра Барысаў у часе акупацыі. Гэта паказвае, што й па вайне Міхась Клімковіч захаваў да мяне пачуцьцё сваёй удзячнасьці.

Выпадак зь Міхасём Клімковічам вельмі характэрны й вымоўны для ўсяе беларускае падсавецкае літаратуры. Ён паказвае, што і Клімковіч, і шмат якія іншыя беларускія пісьменьнікі, пра якіх мы думаем як пра бяспрынцыповых партыйных выслужнікаў, што не за страх, а за сумленьне стараліся служыць партыі й ейнай антыбеларускай палітыцы, у душы сваёй, прынамся ў сваёй бальшыні, гэткімі яны ня былі. У іншых нармальных абставінах яны праявілі-б сябе, як шчырыя й адданыя беларускія патрыёты й сумленныя людзі. Стацца рэнэгатамі сваёй бацькаўшчыны й янчарамі свайго беларускага народу змусілі іх няўмольныя абставіны. У гэтым найвялікшая трагэдыя шмат якіх Беларусаў, у гэтым і трагэдыя Міхася Клімковіча.

**Ст. Станкевіч**

## "BYELORUSSIAN YOUTH — БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ"

**„Беларуская Моладзь" — часапіс Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі,** у сьвежым сваім № 2 (36), Зіма — 1974-75, зьмяшчае: 1. У ангельскай мове: артыкул Юркі Азаркі „Чаму трэба вывучаць беларускую мінуўшчыну", Раі Станкевіч — „Полацкая зямля. Князі", Аліцыі Папярэчнай „Слуцкае Паўстаньне", Ліст удзельніка вучнёўскай дэлегацыі Джона Скаркру, вучня сярэдняй школы ў Мэплвуд, Нью Джэрзі", якая (дэлегацыя) рэпрэзэнтавала сабой Беларускую ССР на адмыслова заінсцэнізаванай дыскусіі Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў у Вашынгтоне, Юркі Азаркі „Беларускія лекцыі ў Ратгэрскім унівэрсытэце", апавяданьне Натальлі Кушаль (унучкі паэткі Натальлі Арсеньневай) „Памаўзьлівы ягуар"; вершы: Андрэя Гасьцеева, Натальлі Кушаль, Веры Валюкевіч. 2. У беларускай мове: вершы Лявона Случаніна „Рагвалод" і Вольгі Іпатавай „Рагнеда" ды народную казку „**Паляшукі й Палявікі**". У часапісе багатая хроніка пра маладзежную дзейнасьць у ангельскай мове і зварот да грамадзтва з просьбаю маральнага й матарыяльнага падтрыманьня ў беларускай мове. Часапіс ілюстраваны. Цана нумару — $1.00, падпіска на год: $4.00. Адрыс Рэдакцыі:

BYELORUSSIAN YOUTH  
P. O. Box 309,  
Jamaica, N. Y. 11431.

ляна Акімава й актор студыі „Масфільм" Уладзімер Ціханаў. Летась у жніўні беларуская кінастудыя пачала здымаць мастацкі фільм із сучаснага жыцьця Беларусі „Вялікі неўтаймавальнік". На ролю галоўнага героя фільму ўзноў-жа быў запрошаны актор Маскоўскага тэатру імя Станіслаўскага Альбэрт Філозаў. Летась увосень пачаліся здымкі мастацкага фільму паводля апошняй аповесьці Васіля Быкава „Воўчая зграя". На ролю галоўнага героя фільму тыповага й надзеленага нацыянальнымі рысамі беларускага селяніна Ляўчука запрошаны актор Маскоўскага драматычнага тэатру на Малой Броннай Анатоль Грачоў. Як быццам у беларускіх тэатрах ня было ніводнага актора, што мог-бы добра выканаць ролю беларускага селяніна?!

Вельмі характэрна, што спасярод 27-ёх працаўнікоў беларускага кіно, узнагароджаных з нагоды юбілею граматамі й ганаровымі граматамі Вярхоўнага Савету БССР, не знаходзім ніводнага кінаактора: ні чужога, ні свайго беларускага. Відаць, чужыя акторы, запрошаныя зь іншых рэспублікаў, не патрапілі пераўвасобіцца ў Беларусаў, асабліва ў зусім няведамых ім беларускіх сялянаў, і таму іхная ігра ў беларускіх фільмах была ніжэй іхных магчымасьцяў. Беларускія-ж акторы, выконваючы адно другарадныя ролі, не маглі ўва ўсёй паўніні выявіць свайго таленту.

Да ўсіх бедаў, што неадлучна спадарожнічалі беларускаму фільму на працягу ўсяго паваеннага пэрыяду, самым апошнім часам далучылася й яшчэ адна бяда. У сувязі з татальнай мабілізацыяй літаратуры й мастацтва на ідэйна-палітычнае ўзгадаваньне народу, у літаратурнай і мастацкай крытыцы двух апошніх гадоў пачаў асабліва моцна абавязваць тарнаваны й дагэнуль, але ня гэтак безаглядна, прынцып, што галоўным, ато й адзіным крытэрыем ацэны твораў літаратуры й мастацтва іхная тэма і ўвасобленая ў гэтай тэме ідэя. Калі твор разгортае сучасную тэму з жыцьця работнікаў, калгасьнікаў і працоўнай інтэлігенцыі або тэму гераізму ў мінулай вайне строга паводля рэкамэндаванай згары ідэйнай ськіванасьці, дык адно гэтага ўжо даволі, каб твор ацаніць пазытыўна. Затое чыста мастацкія якасьці твору адсоўваюцца на задні плян або й зусім не бяруцца на ўвагу. Выраз „тэма вывязе" стаўся ўстойлівым эстэтычным тэрмінам.

У сувязі з гэтым войстра адмоўныя ацэны беларускіх фільмаў яшчэ ў недалёкай мінуўшчыне, некаторыя зь якіх мы прывялі ў гэтым артыкуле, ужо ў 1973 і асабліва ў 1974 гадох не паўтарыліся навет у рэцэньзіях тых самых аўтараў, што перад гэтым бязьлітасна выкрывалі мастацкія заганы рэцэнзэваных імі фільмаў. Як быццам стаўся нейкі цуд, што адразу пасьля раней заганных фільмаў пачалі зьяўляцца фільмы з кажнага гледзішча дасканалыя! У рэцэньзіях двух апошніх гадоў выказваюцца ўжо адны пахвалы й захапленьні новымі фільмамі, а калі й згадваюцца некаторыя іхныя мастацкія заганы, дык адно як зьявы ніістотныя, што ня ўплываюць на агульную якасьць фільмаў. Вось пару канкрэтных з цэлага мноства прыкладаў.

Прафэсійны й раней строга патрабавальны кінакрытык Е. Бондарава ў сваёй рэцэньзіі ў газэце „Літаратура і Мастацтва" за 5 травеня 1973 году на сьвежа створаны тэлевізійны шасьцісэрыйны фільм „Руіны страляюць" паводля аповесьці Івана Новікава „Руіны страляюць ва ўпор" пра менскіх падпольшчыкаў у мінулае вайне, піша: **„Так, ёсьць у стужцы асобныя, павярхоўна адлюстраваныя сытуацыі, не раскрытыя характары. Але глядзіцца яна ад пачатку і да канца зь вялікай цікавасьцю, бо аднаўляе незабыўнае, велічнае, хвалюючае . . . Гэта гімн патрыятызму і мужнасьці савецкага чалавека і разам з тым заклік да жывых, каб заўсёды помнілі пра барацьбітоў за свободу і шчасьце народу".**

Яшчэ больш вымоўны зьмешчаны ў „Літаратуры і Мастацтве" за 30 жніўня летась артыкул ведамага пісьменьніка Тараса Хадкевіча пра сьвежа выпушчаны студыяй „Беларусьфільм" мастацкі фільм „Хлеб пахне порахам" паводля аповесьці Івана Шамякіна. Сюжэт аповесьці й фільму пабудаваны на тэлеграме Леніна ў 1918 годзе камісару станцыі Орша, у якой загадвалася адправіць у Нямеччыну 35 вагонаў хлеба для галадаючых там ваеннапалонных расейскай арміі Першае сусьветнае вайны. Драматычны канфлікт фільму засяроджваецца вакол факту, што эсэры й іншыя контррэвалюцыйныя групы стараюцца перашкодзіць адпраўцы хлеба ў Нямеччыну, уважаючы за больш мэтазгоднае выкарыстаць яго для галадаючага жыхарства Оршы. Ужо сама гэтая тэма — руплівасьць Леніна пра расейскіх ваеннапалонных у Нямеччыне — у паваенным часе вельмі-ж несамавітая й цынічна зьдзеклівая пасьля таго, як савецкія ваеннапалонныя Другой сусьветнай вайны, як правіла, атрымлівалі ня хлеб, а па дзесяць і больш гадоў канцэнтрацыйных лягераў за тое толькі, што супраць сваёй волі апыніліся ў нямецкім палоне.

Ды рэч яшчэ ня ў гэтым, а ў тым, што ў артыкуле Тараса Хадкевіча адны толькі пахвалы і сцэнарысту, і рэжысэру, і апэратару, і мастаку, і ўсім акторам і самому фільму, як цэласьці, а пра адмоўныя зьявы фільму сказана гэтак: **„Можна, вядома, будучы прыдзірлівым, знайсьці недахопы, творчыя пралікі і ў гэтым фільме, але яны кінуцца ў вочы хіба што сапраўды празьмерна прыдзірліваму гледачу ці крытыку".** Дык каму-ж з крытыкаў ці рэцэнзэнтаў захочацца наражацца на закід прыдзірлівасьці да фільму на гэткую важную зь ідэйнага боку тэму? У прыведзеных Хадкевічавых словах дадзеная выразная ўстаноўка, што мастацкі твор трэба хваліць або ганіць адно за ягоную тэму пры няўвазе да мастацкіх якасьцяў твору. „Тэма вывязе!"

***

З нашых развагаў і прыведзенага ў гэтым артыкуле фактычнага матарыялу сама сабой напрошваецца агульная для студыі „Беларусьфільм" высновa, што створаныя ёю фільмы навет на беларускія тэмы нельга назваць беларускімі фільмамі ў поўным значаньні гэтага слова. Гэта фільмы створаныя на Беларусі пры большым або меньшым удзеле беларускіх мастацкіх сілаў ды адно вонкава „прычэпленыя" да Беларусі. Навет сваёй мовай — гэтым найбольш вызначальным элемэнтам нацыянальнае формы паводля абавязваючай яшчэ да мінулае вайны сталінскае тэзы — „культура сацыялістычная зьместам, нацыянальная формаю", — фільмы студыі „Беларусьфільм" у васноўным расейскія фільмы. Беларуская-ж мова, і то адно ў фільмах зь беларускай тэматыкай, гучыць часамі адно ў народных песьнях, прыводжаных у фільмах, і ў вуснах некаторых, пераважна сялянскіх пэрсанажаў дзеля падчыркненьня лякальнага калярыту дзеі фільму.

Фільмовае мастацтва Беларусі, як найбольш даходлівае да шырокіх народных масаў мастацтва, цалком пастаўленае партыяй на службу камуністычнага ўзгадаваньня гэтых масаў і на службу інтэнсыўна ведзенае русыфікацыі беларускага народу. З прычыны гэтае свае службовае ролі, супярэчнае самой існасьці мастацтва, фільмы студыі „Беларусьфільм" не змаглі дасягнуць і высокае мастацкае якасьці, прынамся ў гэткай ступені, як некаторыя творы музычнага або выяўленчага мастацтва, ня кажучы ўжо пра мастацкую літаратуру, лепшыя творцы якой наважана бароняць ейны нацыянальны характар. З усіх галінаў мастацтва Камуністычная партыя найбольшую зрабіла шкоду беларускаму кінамастацтву.

**Ст. Станкевіч**

# АПОШНІ САКРЭТ ДРУГОЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ

Калі згадваюцца злачыны Другой сусьветнай вайны, на думку найперш прыходзяць такія гітлераўскія лягеры сьмерцы як Асьвянцім, Дахаў, Бухэнвальд і іншыя. Часта чуеш, як Жыды згадваюць лік шэсьць мілёнаў сваіх вынішчаных суродзічаў. Радзей прыгадваецца Катынь, а ўжо зусім рэдка пачуеш пра прымусовую рэпатрыяцыю савецкіх і іншых грамадзян з краін Захаду. Бальшыня гэтых нешчасьлівых людзей загінула ў сталінскіх лягерах зьняволеньня і ў Цітавай Югаславіі. Што-ж за прычына гэткага маўчаньня? Ці адно кароткая памяць людзкая?

Хто, як і чаму прымусова перадаў у бальшавіцкія рукі на пэўную загубу такую вялікую колькасьць людзей? Амэрыканскі, брытанскі й францускі ўрады, што зрабілі гэны вялікі злачын, яшчэ сяньня, трыццаць гадоў пасьля сканчэньня вайны, трымаюць у сваіх вайсковых і іншых архівах зьвязаныя з гэным злачынам тайныя дакуманты, не дазваляюць іх публікаваць.

У сваей кнізе „Архіпэляг Гуляг" А. Салжаніцын кажа: „Дзіўна, што на Захадзе, дзе палітычныя тайны ня могуць доўга ўтрымацца ... тайна вось гэтага асаблівага акту зрады была добра й асьцярожна трыманая брытанскім і амэрыканскім урадамі. Гэта ёсьць запраўды апошняя, або адна з апошніх тайнаў Другой сусьветнай вайны".

Паводля самых скупых падлікаў, яшчэ падчас і пасьля вайны перададзена прымусова ў рукі савецкіх карнікаў звыш два мілёны людзей, паводля іншых — каля сямі мілёнаў. У гэны лік увайшлі дапаможныя вайсковыя фармацыі нямецкага Вэрмахту (так званыя „гівісы") усіх падсавецкіх нацыянальнасьцяў, армія ген. Уласава (блізу мілён людзей), казацкае войска (каля 300 тыс.). Сюды ўвайшлі й антыкамуністыя зь Югаславіі (улучна з Харватамі Усташы) ды мілёны ўцекачоў з Савецкага Саюзу, дабравольна прыехаўшых ці прымусова прывезеных на працу ў Нямеччыну, якія пасьля не жадалі вяртацца пад панаваньне Сталіна. Іх перавезьлі ў сталінскія лягеры сьмерці ў Сібір і бальшыня іх там загінула.

Амэрыканскі навуковец і журналісты Юлі Эпштайн вось ужо дваццаць гадоў працуе над разьвязаньнем гэнай „апошняй тайны". У нетрах Пэнтагону, брытанскага й францускага ваенных архіваў знаходзяцца недаступныя нікому тайныя дакуманты, неабходныя для канчатковага выясненьня „загадкі". Але і з тых матар'ялаў, якія ўдалося яму сабраць, Ю. Эпштайн апрацаваў добрую й надзвычайна цікавую кнігу, што ў 1973 г. выйшла пад заг. „Апэрацыя Кілгол". Трэба згадаць, што яшчэ раней, галоўна дзякуючы вялікай працавітасьці й вытрываласьці Ю. Эпштайна, было бязь ніякіх сумлеваў высьветлена, што ня гітлераўцы, а сам крамлёўскі дыктатар, рукамі сваіх карнікаў вымардаваў у лесе ля Катыні каля пяці тысячаў польскіх ахвіцэраў.

У прадмове да сваёй кнігі Ю. Эпштайн піша: „Апэрацыя Кілгол гэта ёсьць зашыфраваная мянушка, якую амэрыканская армія дала сваёй тайнай дакумантацыі, што датычылася да прымусовай рэпатрыяцыі найменш двух мілёнаў ваеннапалонных і перамешчаных асобаў, перададзеных у рукі сталінскіх вісельнікаў і ў лягеры зьняволеньня. Галоўнымі дзейнікамі гэтага злачыну супраць людзкасьці ня былі ані нацыстыя, ані камуністыя, але ваенныя ўлады заходніх хаўрусьнікаў. Ахвяры злачыну ня былі ворагі Захаду, а адно ворагі камунізму. Гэта ня было зроблена згодна зь існуючым правам, а нашае нутраное й міжнароднае права было пагвалчаванае. Гэта ня служыла інтарэсам заходніх дэмакрацыяў, але адно й выключна інтарэсам Ёсіфа Сталіна, Савецкага Саюзу й сусьветнага камунізму".

Тэрмін „кілгол" абазначае жахлівае катаваньне, практыкаванае на моры. Чалавека зьвязвалі й абкручвалі вяроўкамі, цягалі ў вадзе пад і навокал карабля. Звычайна ахвяра такога пакараньня памірала. Наўмыснае ўжыцьцё такога тэрміну вайскоўцамі заходніх хаўрусьнікаў для акту перадачы мілёнаў людзей у рукі Сталіна выяўляе іх поўную сьведамасьць таго, што перадавалі людзей на жахлівыя мукі й пэўную сьмерць.

Некаторыя-ж з гэтых злачынцаў зусім ня гулялі ў жмуркі. Прыкладна, брытанскі міністар Ідэн, які наўсуперак пачатковаму супраціву Чэрчыля, „прапхнуў пастанову ў урадзе", пасьля ў урадавым дакуманьце зазначыў: „Мы высылаем некаторых зь іх на сьмерць". Гады пазьней, калі яго спыталі, Ідэн заявіў, што ён ня прыгадвае дэталяў прымусовае рэпатрыацыі. Характэрна, што Ідэн знаходзіцца ў добрай кампаніі. Не згадаў пра яе ў сваёй амаль бесканечнай пісаніне і Чэрчыль, ні словам ня ўспомніў пра яе ў сваіх мэмуарах бяздушны Айзэнгаўэр, ці не галоўны інструмант выкананьня злачыну, ня згадваў яе і грандыёзны Дэ Гол. Наагул, усе тыя „бойсы", што сілай піхалі мілёны нічым нявінных людзей на пэўную загубу ў сталінска-кагэбэшніцкай жвачцы, маўчаць і сяньня, быццам ім заняло. Ці баяцца мо, што цень гэтага непамернага злачыну заслоніць гістарычнае зьзяньне чэрчыляўскай „найслаўнейшай гадзіны Брытаніі?"

Асноўваючыся на выяўленых ужо дакумантах, сп. Эпштайн у сваёй працы разглядае праўныя й маральныя бакі такой нялюдзкай акцыі заходніх хаўрусьнікаў, што пярэчыла зусім традыцыям вольнасьці й маральнасьці заходніх дзяржаваў, а пасьля падробна перадае факты прымусовай перадачы бальшавіком вайскоўцаў і цывільных, пачынаючы ад уласаўцаў, Казакаў, Югаславаў, а канчаючы перамешчанымі асобамі ўва ўсіх краінах заходняй Эўропы ды навет у Сыятл і Форт Дыкс у ЗША.

Усе ніткі злачыну зводзяцца да клубка ўмовы ў Ялце, на моцы якое пасьля апэрацыйная дырэктыва амэрыканскае арміі ў Эўропе гаварыла: „пасьля апазнаньня савецкімі рэпатрыяцыйнымі прадстаўнікамі, савецкія перамешчаныя асобы маюць быць рэпатрыяваныя не зважаючы на іх асабістыя жаданьні".

Усе несавецкія перамешчаныя асобы мелі права выбару. Адылі навет ялтанская ўмова не абавязвала да прымусовай рэпатрыяцыі. Яна гаварыла пра людзей, што самі мелі выявіцца савецкімі грамадзянамі. Зусім што іншае — дух умовы. Выглядае, што заходнія хаўрусьнікі аддана трымаліся духу ўмовы, каб паказаць Сталіну й ягоным карнікам сваю добрую волю ды здабыць ягоны давер.

Ці не найбольш перастараліся дзейнікі брытанскай восьмай арміі, перадаючы бальшавіком Казакаў над ракой Дравай каля Ліенцу ў паўдзённай Аўстрыі ў чырвені-ліпені 1945 г. Яны ня толькі выканалі, але й перавыканалі гэны дух злачыннай умовы. Аддавалі няпрыяцелю ня толькі людзей, што былі савецкімі грамадзянамі й якія часта ратунак бачылі ў самагубстве — пераразалі сабе жылы, кідаліся на агонь зброі, жанчыны тапілі ў Драве дзяцей і самі кідаліся з мосту ў раку, — але аддалі Сталіну й Казакаў, што змагаліся некалі за незалежнасьць свае краіны (як, прыкладна, атаман Красноў) у грамадзянскай вайне, а пасьля эмігравалі ў Югаславію. Адно ўявіце сабе рогат у Крамлі!

Нямецкі генэрал Кэстрынг, стараючыся памагчы жаўнерам Уласава, каб прынялі іх Амэрыканцы ў Баварыі й не перадалі бальшавіком, хутка спасьцярог дарэмнасьць сваіх намаганьняў. Расчараваны, ён выказаў Амэрыканцам такую думку: „Мы, Немцы, дзякуючы сваёй дурноце, нястачам і нясьведамасьці зьнішчылі найбольшы капітал, які калі-небудзь на сьвеце існаваў у змаганьні з бальшавізмам. Вы цяпер не зразумееце, калі скажу вам, што вы нішчыце гэты капітал другі раз. Можа здарыцца, што ў недалёкай будучыны вы будзеце распачліва патрабаваць тое, што цяпер нішчыце".

У 1955 годзе, пасьля г. зв. хрушчоўскай амністыі, калі пару сотняў былых уласаўцаў і Казакаў выпусьцілі зь сібірскіх лягераў зьняволеньня, савецкая газэта пісала:

„Мы выпусьцілі іх (старых казацкіх эмігрантаў) і прабачылі сваім (уласаўцам). Ці яны былі ўласаўцы, ці ваеннапалонныя, што не хацелі вяртацца на радзіму, ня мае цяпер вагі. Усе грахі ім прабачылі.

Але ніколі нельга забывацца пра ангельскія й амэрыканскія штыкі, нагайкі, кулямёты й танкі, што супраць іх ужывалі. Расеец ніколі не забудзецца пра Ліенц, Дахаў, Плянтлінг, Таронта й іншыя месцы перадачы улучна зь Нью Ёркам. Пра іх ня трэба забывацца. Гэта лекцыя, якую ўсе Расейцы мусяць добра навучыцца. Яна паказвае, што ніколі нельга верыць капіталістычным дзяржавам у будучыні".

Згодна савецкай статыстыкі, з краінаў заходняй Эўропы пасьля вайны рэпатрыявана 330 тысяч Беларусаў. Даючы сьскідку на тое, што шмат нашы;х суродзічаў пэўне-ж закінулі ў іншыя групы, галоўна расейскую, можна сьмела гэны лік закругліць да паўмілёну.

Кагадзе выйшла ў сьвет і другая, добра ўдакумантаваная кніга, прысьвечаная прымусовай рэпатрыяцыі, пад загалоўкам „Апошні Сакрэт" аўтарства Ніколаса Бэтэла. Гэтта шмат увагі прысьвечана перадачы Казакаў бальшавіком адзьдзеламі брытанскай восьмай арміі. Між іншага, з кнігі даведваемся, што:

Два найбольшыя акты зрады Вялікай Брытаніі з Другой вайны былі перадача Савецкаму Саюзу Польшчы й антыбальшавіцкіх эмігрантаў.

Адным зь нешматлікіх пісьменьнікаў, што пратэставаў супраць гэтага другога акту зрады, быў Жорж Орвэл (аўтар „1984"), нястомны анты-таталітарны сацыялісты, якога ганьбавалі за выкрыцьцё праўды.

Загартаваныя вайной брытанскія жаўнеры былі блізу бунту пасьля перадачы бальшавіком Казакаў. Пэрсанал адзьдзелаў Аргыл і Сатэрлянд Гайляндэрс часта зьмянялі пасьля пару дзён акцыі перадаваньня Казакаў, каб войска ня збунтавалася.

Казакі пераразалі горлы адзін другому, бо гэтак было лягчэй выратавацца ад лёсу, страшнейшага за сьмерць. Адзін казацкі ахвіцэр сказаў, што бальшавікі „білі нас штыкамі й нагайкамі, а Брытанцы забілі нас сваім словам гонару". Некаторыя Брытанцы білі Казакаў і самі мелі сьлёзы ў вочах. Простыя жаўнеры часта ня выконвалі дакладна інструкцыяў сваіх ахвіцэраў, каб даць магчымасьць ахвярам у роспачы ўцячы і такім чынам выратавалі цімала Казакаў.

Шматлікія з нашых суродзічаў вырваліся з рэпатрыяцыйнай пасткі. Яны шмат цікавага могуць расказаць пра гэныя жахлівыя часы, калі заходнія носьбіты вольнасьці й высокай маральнасьці (як шмат каму тады здавалася) памагалі бальшавіцкім рэпатрыяцыйным камісіям заганяць нявінных людзей на пэўную сьмерць. Пра гэныя часы йснуе багатая літаратура ў розных мовах, у тым ліку й дзьве вышэйзгаданыя працы.

Кнігі Эпштайна й Бэтэла вартасныя тым, што яны цікава й пасьлядоўна раскрываюць усе аспэкты гэнае жахлівае зрады. Але раскрыцьцё гэтта няпоўнае, бо ў архівах заходніх дзяржаваў яшчэ й сяньня, трыццаць гадоў пасьля сканчэньня вайны, ляжаць ці не галоўныя „звыш сакрэтныя" акты ўмоваў і „апэрацыі Кілгол". Ці гэныя тайны маюць назаўсёды тайнымі застацца? І чаму раскрытыя ўсе іншыя малыя й вялікія злачыны, а гэты найбольшы, мае нераскрытым адыйсьці ў нябыт?

Ня толькі Беларусы, якія так ці накш маюць ці могуць мець доступ да ўладаў Вялікай Брытаніі й ЗША, але й эміграцыі іншых паняволеных народаў мусяць намагацца, каб тайны гэтага, ці не найбольшага злачыну былі канчаткова раскрытыя. Жорж Сантаяна сказаў: „Тыя, што забываюцца пра сваю прошласьць, змушаныя яе паўтарыць".

Шансы паўтарэньня жахлівага мінулага існуюць і сяньня, падчас гэтак модна названага „дэтан". Вера ў Бога й вынікаючая зь яе людзкая маральнасьць, павага традыцыяў свабоды, гарантаваных канстытуцыямі Амэрыкі й Англіі — усё гэта адыйшло на задні плян. На чало выйшла й разнаглела ніколі ненасытная прагавітасьць матар'яльнай нажывы, а з гэтым маральны расклад заходніх грамадзтваў. Гэта ўсё адбываецца ў найбольш крытычны момант, калі бязбожны й антычалавечы сьвет пад кіраўніцтвам Масквы пачынае апошні наступ. Ленін некалі сказаў: „Капіталістыя прададуць нам вяроўку, на каторай мы іх павесім".

Нашае грамадзтва на эміграцыі, перадусім нашая моладзь, мусіць быць добра паінфармавана, а пасьля і зрабіць, што мага, каб падобны злачын як прымусовая рэпатрыяцыя ў 1944-50-х гадох не паўтарыўся, ды каб чужынцы перасталі гандляваць нашым народам.

**К. Акула**

Жадаючым падаём назовы кнігаў і выдаўцоў, раючы іх купіць або замовіць у мясцовых бібліятэках. Варта, каб кнігі гэтыя чытала й нашая моладзь.

OPERATION KEELHAUL
by Julius Epstein, The Devin Adair Co., Old Greenwich.
Canadian Agent: Trans Canada Ltd. Toronto.
The Last Secret, by Nicholas Bethel, publ. Andre Deutsch.

# ЮРКА ВІЦЬБІЧ

Бадай ніхто на эміграцыі ня ведаў яго так добра, як я. Амаль на працягу сарака год мы часта сустракаліся, хоць і розныя былі паводля характару й жылі ў розных местах. Ён быў таксама далёка адпіхнуты ад „добраў", якія прызначаліся пісьменьнікам, і не належаў да г. зв. „абоймы" актывістых, таксама, як і я. Нас міналі „пуцёўкі" на курорты й у дамы адпачынку. Ён туліўся зь сям'ёй у вадным пакойчыку ў ваколіцах Віцебску, бяз усякіх выгод; у маім памешканьні, таксама з аднаго пакою ў ваколіцах Менску, ня было навет электрыкі ...

Юрку Віцьбічу не ўдалося атрымаць нармальным парадкам асьветы, праз гімназію ці іншую школу сярэдняй ступені, у свае юнацкія гады. Нарадзіўшыся ў 1905 годзе, яму было толькі год пятнаццаць, калі гімназіі і іншыя сярэднія школы былі зачыненыя. Я быў заўсёды зьдзіўлены ягонымі здольнасьцямі й ягоным талентам, і адведаўшы яго, як сябра, пасьля вайны ў Рэгенсбургу, у сяброўскай гутарцы запытаў:

— Якую вы маеце асьвету?

Юрка з характэрнай стрыманай ухмылкай адказаў:

— Нейкіх пару год школьнай навукі ...

— Але-ж, паводля таго, што й як вы робіце, можна меркаваць, што вы маеце ладныя веды?

— Самаадукацыя, галоўным чынам, пры дапамозе бацькі; ён меў асьвету духоўнай сэмінарыі й працаваў дзяком у ваднэй зь Вяліскіх цэркваў. Зразумела, гэтага мала было, каб стаць пісьменьнікам, а гэтую мару я насіў ад юнацкіх год. І потым, як усё супакоілася і больш-менш увайшло ў норму, я выехаў у Маскву, каб працягваць асьвету. Але там мне не пашанцавала: Масква — гэта куток расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму з даўных часоў, яшчэ ад Аксакава. Я вярнуўся на Бацькаўшчыну й два гады студыяваў на адным з тэхнікумаў...

Трымаю ў руках „Беларуса" і гляджу на патрэт Юркі: вусны сьціснуты, шэрыя вочы ўдумліва глядзяць некуды ў далячынь — зачараваны Бацькаўшчынай, як у сьне, бача ейныя пахкія палі й пушчы, ейныя сьветлыя рэкі, ейныя узгоркі ...

... Трэба любіць Бацькаўшчыну ўсёй глыбінёй сэрца, трэба хварэць ейнай сучаснай няволяй — у якой яна ўжо больш за дзьве сотні год, — каб стварыць такія бліскучыя дыяманты, не зважаючы на жыцьцёвыя цяжары выгнанца, якія пакінуў пасьля сваёй сьмерці Юрка Віцьбіч!

... Успамінаецца адзін мамэнт. Недзе там у верхавіне Дунаю, у тэй паэтычнай Швабіі, паміж Зігмарынгенам і Заўльгаў, мы ідзем шукаць Арбайтсамт, каб стаць на працу й атрымаць харчовыя карткі. Шырокім крокам ідзе ўперадзе Юрка. Я за ім, а за намі нашыя сем'і. Люты 1945. Ляжыць яшчэ сьнег. Далей на паўдзённы-захад грукочуць гарматы ...

Я гляджу пад ногі Юркі й заўважаю зырка пачырванелыя пальцы ног. Спыняю яго й зьвяртаю ўвагу.

— А вы ведаеце, слухаю канонаду й думаю: скончыцца вайна й ці паўстане нашая родная Беларусь вольнай і незалежнай, каб у ёй можна было вольна й жыць. А пра холад у ногі навет і забыў!? ...

— Але-ж сьцюжа, можна прастудзіцца!

— Ну, так, але дзе ўзяць новыя чаравікі, ці хоць-бы наладзіць гэтыя? — Потым, пачакаўшы: — Што тады з намі будзе, калі сапраўды паўстане вольная Беларусь — мы звар'юем ад радасьці?!

— Не, браток! Вар'яваць нам ня трэба — лепей праўдзіва перадаць народу той патас, зь якім мы вялі змаганьне, каб новае пакаленьне ведала, як прадоўжыць яго ў выпадку новай небясьпекі ...

І вось, здарылася! Адыйшоў ад нас натхнёны рамантык волі, выдатны Беларус-энцыкляпэдысты, патрыёт і першарадны нарысісты-пісьменьнік!

Сьпі, Сябра! Прыйдзе час і Твае мары аб вольнай, незалежнай і шчасьлівай Беларусі спраўдзяцца!

**Мікола Цэлеш**

# РУСЫФІКАЦЫЯ АД САМАГА МАЛЕНСТВА

50-я ўгодкі месячнага беларускага часапісу для дзяцей старэйшага веку „Бярозка" й 30-я ўгодкі расейскамоўнай газэты для піянераў Беларусі „Зорька", што споўніліся летась у сьнежні, ажывілі ўвагу да пэрыядычнага друку для дзяцей. Асабліва ўрачыста й на найвышэйшым партыйным і ўрадавым узроўні былі адзначаныя 50-я ўгодкі часапісу „Бярозка". 25 сьнежня адбыўся прысьвечаны юбілею гэтага часапісу ўрачысты сход, у якім прынялі ўдзел і выступілі з прамовамі сакратар ЦК Камуністычнай партыі Беларусі А. Сьмірноў, сакратар ЦК Камсамолу Беларусі й старшыня Рэспубліканскага савету піянерскай арганізацыі імя Леніна Л. Балошка й намесьнік міністра асьветы БССР І. Сярноў. На свой юбілей часапіс „Бярозка" быў узнагароджаны высокім дзяржаўным ордэнам „Знак пашаны".

Гэткая вялікая ўвага да часапісу „Бярозка" моцна нясумерная да ягонае фактычнае ролі ў працэсе навучаньня й узгадаваньня малых чытачоў. Часапіс гэты, галоўным рэдактарам якога быў на працягу даўгіх гадоў паэта Кастусь Кірэенка, а ад 1973 году — паэта Васіль Зуёнак, моцна перагрувашчаны нярэдка сухім і манатонным мтар'ялам палітычным і ідэалягічным, вершамі, апавяданьнямі й зацемкамі пра Леніна й партыю й наагул мае характар агітацыйна-прапагандавы, які ня вельмі цікавіць дзяцей, хай сабе й старэйшага веку. Апрача гэтага, „Бярозка" ахоплівае вельмі-ж мізэрную частку дзяцей Беларусі, бо ейны тыраж ад даўжэйшага ўжо часу хістаецца ад 30-ці да 33-х тысячаў экзэмпляраў.

Затое другі беларускі месячны часапіс „Вясёлка" для дзяцей дашкольнага веку мае тыраж чуць не ўтрая большы: тыраж гэты ад колькіх гадоў хістаецца між 110-113 тысячамі экзэмпляраў. Ягоным галоўным рэдактарам даўгі час быў таленавіты дзіцячы паэта Васіль Віткі, а ад 1974 году — паэтка Еўдакія Лось. Сваім зьместам „Вясёлка" цалком адпавядае зацікаўленьням малодшых дзяцей: у ёй пераважаюць матар'ялы з жыцьця жывой і няжывой прыроды Беларусі, вершы й апавяданьні з фальклёрнымі й удала фальклярызаванымі сюжэтамі. Часапіс гэты добра і ўмела рэдагуецца й вызначаецца высокімі пэдагагічнымі якасьцямі. Асабліва важнай пазытыўнай якасьцяй абодвых часапісаў — „Вясёлкі" й „Бярозкі" іхнае багатае ілюстраваньне каляровымі малюнкамі лепшымі беларускімі кніжнымі графікамі. Да заслугаў абодвых часапісаў належыць і тое, што на іхных бачынах зьмяшчаюцца ў значнай колькасьці вершыкі й апавяданьні самых дзяцей, а таксама й іхныя часамі даволі ўдалыя каляровыя малюнкі.

Трэба думаць, аднак, што ня лепшае рэдагаваньне й вышэйшы мастацкі й пэдагагічны ўзровень зьявіліся прычынай, дзеля якой часапіс „Вясёлка" разыходзіцца больш чымся ўтрая вышэйшым тыражом супраць часапісу „Бярозка". Тут існуюць прычыны іншыя: перш-наперш век дзяцей, для якіх прызначаныя часапісы. Падобная прапорцыя вышыні тыражоў захоўваецца й між кніжнымі выданьнямі твораў мастацкай літаратуры для дзяцей дашкольнага й малодшага школьнага веку, а выданьнямі для дзяцей старэйшага школьнага веку.

Гэтак кнігі мастацкай літаратуры на беларускай мове для дзяцей старэйшага школьнага веку выходзяць стандартнымі тыражамі па 14 тысячаў экзэмпляраў, а кнігі для дзяцей дашкольнага й малодшага школьнага веку — тыражамі па 50, а ў некаторых выпадках навет па 100 тысячаў экзэмпляраў. І наадварот — кнігі на расейскай мове для дзяцей дашкольнага й малодшага школьнага веку выходзяць тыражамі ўдвая толькі большымі, чымся кнігі на беларускай мове — па 100 і 200 тысячаў экзамляраў. Затое кнігі на расейскай мове для дзяцей старэйшага школьнага веку — ужо ў ко-

**(Заканчэньне на 6-й бачыне)**

